


Рэгіянальная газета

10 мая 2013 года
№ 19 (941)

http://rh.by

…пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".






# З Днём Перамогі



навіны рэгіёна

## Прайшоў аўтапрабег "Перамаглі разам-2013"

**МЯДЗЕЛ.** З 4 па 6 мая на Мядзельшчыне знаходзіліся ўдзельнікі аўтапрабегу "Перамаглі разам-2013". Пабывалі яны ў вёсцы Нарач (Кабыльнік), агледзелі мясцовыя славутасці, усклалі кветкі да абеліска ля возера Нарач. Аўтапрабег "Перамаглі разам-2013" прысвечаны 68-й гадавіне Перамогі. Праходзіць ён пры падтрымцы дабрачыннага фонду падтрымкі ветэранаў "Подзвіг". Стартаваў аўтапрабег 3 мая з Санкт-Пецярбурга. У шлях рушылі дзевяць аўтамабіляў. Маршрут акцыі праходзіць па месцах баёў і пралягае праз Пскоў, Полацк, Нарач, Ліду, Гродна, Брэст, Мір і Мінск. Агульная працягласць маршруту – каля 2700 кіламетраў. У праграме прабегу – ускладанне кветак да мемарыялаў, сустрэчы з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны. Асноўнай падзеяй стане ўдзел у святочных мерапрыемствах у Брэсцкай крэпасці.

## Валанцёры з Ірландыі дапамагалі школе-інтэрнату

**ВІЛЕЙКА.** Ірландскія валанцёры пад кіраўніцтвам **Браяна Келі** з 28 красавіка па 4 мая дапамагалі Вілейскай агульнаадукацыйнай спецшколе-інтэрнату для дзяцей з цяжкімі парушэннямі мовы. "Яны адрамантавалі майстэрню для хлопчыкаў, дзве гульнявыя, кабінет псіхолага, падвал, – паведаміла намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце **Марыя Дзяруга**. – Іх праца спрыяе паляпшэнню ўмоў жыцця дзяцей". Дапамагалі валанцёрам педагогі, пасільную дапамогу аказвалі і дзеці. Ірландцы працавалі з 9 да 18 гадзін. А потым праходзілі сустрэчы з дзецьмі, спартыўныя мерапрыемствы. Навучэнцы школы-інтэрната падрыхтавалі для гасцей канцэрт. Падобныя візіты адбываюцца з 2006 года. На гэты раз прыехалі 26 чалавек. Завіталі ў Вілейку людзі розных узростаў (аднаму было нават 64 гады) і прафесій. Сярод валанцёраў былі ўладальнікі прыватных фірмаў, гаспадыні, тэлевізійны аператар, інжынер.

## Адзіная жыхарка вёскі Русалішкі загінула ў пажары

**МАЛАДЗЕЧНА.** Пажар адбыўся ў суботу, 4 мая, каля 14.00. Выратавальнікаў выклікала жыхарка суседняй вёскі. Яна адтуль убачыла дым, які ішоў ад дома ў Русалішках. Але супрацоўнікі МНС не змаглі выратаваць жанчыну. Калі яны прыехалі, дом ужо палаў, а дах папросту абрынуўся. Загінулай гаспадыні было 65 гадоў. Яна жыла адна. У вёсцы Русалішкі тры дамы. Першы – дача, другі – нежылы і трэці, які згарэў. Пра здарэнне расказаў інспектар інспекцыі дзяржпажнагляду Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях **Ксенія Цімафеева**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Фота з далёкага 1945-га

**Калі я прачытаў публікацыю ў "Рэгіянальнай газеце" за 9 красавіка пра свайго дзядзьку ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Івана Баравога з вёскі Баравыя на Вілейшчыне, адразу ўспомніў, што ў маім альбоме ёсць некалькі фатаграфій часоў вайны, на якіх ёсць і мой дзядзька.**

На адной ён за рулём матацыкла са сваім таварышам па службе. Гэта пераможны 1945 год. Перамогу Іван Баравы сустрэў у Германіі.

Дарагі дзядзька, ад усяго сэрца віншую Вас з Днём Перамогі над фашысцкай Германіяй! Адным з тых, хто каваў гэту перамогу, былі і Вы, вашы аднапалчане, вайсковыя камандзіры ўсіх рангаў. Жадаю Вам і ўсім ветэранам моцнага здароўя ад Бога, сямейнага шчасця, аптымізму і даўгалецця. Толькі сонечных дзён заўжды! Трымайцеся, дарагі яфрэйтар Савецкай Арміі!

**Пляменнік**
**Міхаіл ПЛЯШАК, Маладзечна.**



Фота з архіва Міхаіла ПЛЯШАКА.

На здымку 1945 года Іван Баравы за рулём матацыкла разам са сваім таварышам па службе ў Германіі.

## У рэгіёне засталося 719 удзельнікаў вайны

**АСТРАВЕЦ.** У Астравецкім раёне жыве 13 удзельнікаў вайны, а таксама 13 вязняў фашысцкіх канцлагераў. Усім ім за 85 гадоў.

**АШМЯНЫ.** У Ашмянскім раёне 33 ветэраны. Вязняў канцлагераў няма, але ёсць 5 чалавек, якія ўжо паўналетнімі патрапілі на прымусовыя працы ў Германію. Яшчэ 8 чалавек з Ашмянскага раёна апынуліся там у непаўналетнім узросце.

**ВАЛОЖЫН.** У Валожынскім раёне 89 ветэранаў і 92 вязні канцлагераў.

**ВІЛЕЙКА.** У Вілейскім раёне пражываюць 124 ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, у тым ліку 24 інваліды вайны, а таксама 100 былых непаўналетніх вязняў фашысцкіх канцлагераў, турмаў, гета і іншых месцаў прымусовага ўтрымання.

**МАЛАДЗЕЧНА.** Удзельнікаў вайны ў Маладзечанскім раёне 348, былых вязняў – 211, з якіх 187 былі непаўналетнімі.

**МЯДЗЕЛ.** У Мядзельскім раёне 40 удзельнікаў вайны, 10 інвалідаў вайны, 6 працаўнікоў тылу, 1 вязень канцлагера, 1 жыхарка блакаднага Ленінграда.

**СМАРГОНЬ.** Цяпер у Смаргонскім раёне засталіся 72 ветэраны і 20 вязняў канцлагераў.

**Зоя ХРУЦКАЯ,**
**Аляксандра ПАРАХНЯ,**
**Вольга ЮРКЕВІЧ,**
**Алесь ВЫСОЦКІ,**
**Настасся РОЎДА.**

# 29 чэрвеня 1941-га ў небе ля Маладзечна

**Гісторык Галіна Аніскевіч адкрывае новыя факты з гісторыі апошняй вайны**

У першыя ж хвіліны Вялікай Айчыннай вайны разам з іншымі абаронцамі Радзімы ў барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ўступілі і савецкія авіятары.

Спачатку супраць найноўшых нямецкіх знішчальнікаў і штурмавікоў ім давялося ваяваць на састарэлых тыпах самалётаў. Аднак уступаючы ў няроўныя баі з нямецкімі асамі, савецкія лётчыкі смела ішлі насустрач небяспецы і гінулі смерцю герояў. Плацілі сваім жыццём за тое, каб хоць на гадзіну затрымаць узброенага да зубоў ворага.

З тых часоў мінула ўжо больш за 70 гадоў, але, на жаль, многія магілы лётчыкаў да гэтага часу staюць безыменныя.

Мне хочацца расказаць пра адзін з эпізодаў першых дзён вайны, аб баявым вылеце лётчыкаў 221-га далёкабамбардзіровачнага палка 48-й авіяцыйнай дывізіі, якая базавалася на аэрадроме "Шчыгры" ў Курскай вобласці, лёс якіх аказаўся назаўжды звязаны з Беларуссю.

Вельмі спадзяюся, што пасля гэтай публікацыі безыменных магіл у Маладзечанскім раёне стане менш.

29 чэрвеня 1941 года 221-ы далёкабамбардзіровачны полк атрымаў заданне правесці бамбардзіроўку нямецкай мотамеханізаванай калоны ў раёне Вільня-Ашмяны. У 13 гадзін на баявое заданне вылецела эскадрылля капітана **Аляксея Весялова**, дзевяць самалётаў Іл-4. Вылеталі звёнамі – па тры самалёты праз кожныя 20 хвілін. Нечакана ў тройцы Весялова адна машына выйшла са строю і вярнулася на аэрадром. Далейшы шлях лётчыкам прыйшлося выконваць у пары.

## Бой з "Месершмітамі"

Праляцеўшы на вышыні 6000 метраў уздоўж шашы Маладзечна-Мінск, лётчыкі выявілі варожую мотамеханізаваную калону, якая сваёй галавой падыходзіла да Мінска. Знізіўшыся, экіпажы скінулі бомбы на танкі і аўтамашыны праціўніка.

Унізе ўспыхнула некалькі ачагоў пажару. Развярнуўшыся, "Ілы" сталі заходзіць у хвост калоны, каб абстраляць яе з кулямётаў. Але тут з'явіліся чатыры нямецкія знішчальнікі, якія адразу ж кінуліся ў атаку. Уступіўшы ў няроўны бой з "Месершмітамі", экіпажу Іл-4 удалося збіць адзін з іх.

Але і праціўнік дзейнічаў без промаху – загарэлася машына камандзіра эскадрыллі капітана Весялова. Агнём варожых кулямётаў было перабіта кіраванне рулямі, выйшаў са строю правы матор, загарэўся бензабак. Машына стала некіруемая.

**Камандзір эскадрыллі даў каманду экіпажу пакінуць самалёт на парашутах. Неўзабаве над зямлёй павіслі два белыя купалы.**

А знішчальнікі саперніка пагналіся за другім "Ілам", які са зніжэннем пайшоў на ўсход, пакідаючы ззаду сябе струмень дыму. Без цяжкасцяў расправіўшыся з пакалечаным бамбардзіроўшчыкам, "Месершміты" таксама хутка зніклі, як і з'явіліся. Ахопленая полымем машына ўпала каля вёскі Каменец Рагаўскога сельсавета Мінскага раёна.

## Лёс экіпажа

Камандзір экіпажа **Уладзімір Сашыхін** і паветраны стралок малодшы сяржант **Дзмітрый Яна** пакінулі самалёт на парашутах. І з гэтага моманту іх шляхі разышліся.

Янаў быў захоплены ў палон і вывезены ў Нямеччыну, дзе правёў усю вайну ў канцлагеры. Дажыўшы да Перамогі, вясной 1945 вызвалены часцямі Савецкай Арміі.

А лётчык старшы лейтэнант Сашыхін, прабіраючыся лясными сцежкамі, здолеў выйсці з акружэння і вярнуўся ў часць, дзе прадоўжыў барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Два іншыя члены экіпажа – штурман старшы палітрук **Афанасій Дворнік** і стралок-радыст малодшы сяржант **Сяргей Зуеў** былі забітыя ў паветраным баі і ўпалі разам з падпаленым "Ілам". Мясцовыя жыхары пахавалі іх на месцы падзення самалёта недалёка ад вёскі Камянец.

Падбіты бамбавік капітана Весялова ўпаў у багністае балота каля вёскі Сычавічы Маладзечанскага раёна. Стралок-радыст малодшы сяржант **Васіль Старасельскі** і паветраны стралок малодшы сяржант **Рыгор Волахаў** загінулі. Капітан Аляксей Весялоў лічыцца зніклым без вестак.

Штурман экіпажа капітан **Аляксей Астахаў**, паранены ў галаву і правую руку, пры скачку з парашутам стукнуўся нагой аб стабілізатар і трапіў пад гарачы струмень бензіну. Прызямліўшыся на ўскрайку лесу ў некалькіх кіламетрах ад Сычавічаў, ён адчуў пякучы боль у нагах. Ісці ён не мог. Паціху агледзеўся на незнаёмай мясцовасці. Праз некаторы час заўважыў двух чалавек. Гэта ішлі чырвонаармейцы 7-га стралковага палка, прабіраліся з акружэння на ўсход, да сваіх.

## Дапамога

Чырвонаармейцы не пакінулі ў бядзе параненага лётчыка. Да раніцы 30 чэрвеня ім удалося дайсці да вёскі Дашкі Лагойскага раёна. Тут параненага перавязалі, сцягнулі з ног унты.

**Ногі моцна распухлі. Аляксею патрабавалася сур'ёзная медыцынская дапамога, аднак бліжэйшая бальніца знаходзілася ў дзевяці кіламетрах – у вёсцы Янушкавічы.**

Сяляне далі чырвонаармейцам каня і патлумачылі, як дабрацца да шпіталя. І ўжо да вечара таго ж дня група прыбыла да месца. У бальніцы дактары аказалі капітану Астахаву кваліфікаваную дапамогу. На досвітку чырвонаармейцы зноў адправіліся ў шлях, пакінуўшы параненага лётчыка на апеку мясцовых жыхароў.

Капітана Астахава ўзяў да сябе, рызыкуючы жыццём і сваёй сям'ёй, калгаснік **Андрэй Вітушка** – жыхар суседняй вёскі Якубавічы. Сяляне выходжвалі параненага, як маглі, лячылі яго народнымі сродкамі. Паступова сілы вярталіся да Аляксея.

**Да восені костка зраслася, апёкі амаль зажылі, ён зноў мог хадзіць. Стаў дапамагаць Вітушку па гаспадарцы.**

Набліжалася зіма. Немцы разгарнулі прапаганду, што вайна хутка сканчыцца, Чырвоная Армія разбітая, і яны вось-вось захопяць Маскву. Куды ісці? Астахаў застаўся ў вёсцы.



Фота забяспечана Галінай АНІСКЕВІЧ.

**Штурман Міхаіл Панічкін. Быў збіты 29 чэрвеня 1941 года ля Чарчонава паміж Вілейкай і Маладзечнам. Члены экіпажа Панічкіна загінулі. Міхаіл выжыў і працягваў ваяваць. Герой Савецкага Саюза.**

## Здрада

Але знайшоўся здраднік, які данёс акупантам, што ў хаце селяніна Вітушкі хаваецца савецкі лётчык. 20 лютага 1942 года фашысты ўварваліся ў вёску Якубавічы і схапілі Астахава. Больш за тры гады ён правёў у канцлагеры на тэрыторыі Баварыі, але, прайшоўшы фашысцкія канцлагеры, выжыў.

Вызвалілі яго войскі саюзнікаў 26 красавіка 1945 года. Аляксей Астахаў вярнуўся на радзіму.

## Збіты самалёт ля Чарчонава

А ў той дзень 29 чэрвеня 1941 года на поўнач ад горада Маладзечна быў збіты яшчэ адзін самалёт з 221-га авіяпалка 48-й далёкабамбардзіровачнай авіядывізіі.

Іл-4 камандзіра звяна **Яўгена Смірнова** ўпаў каля хутара Чарчонава. Амаль увесь экіпаж загінуў: камандзір экіпажа малодшы лейтэнант Яўген Смірноў, стралок-радыст малодшы сяржант **Міхаіл Аношка**, паветраны стралок малодшы сяржант **Іван Валошын**.

## Герой

Удалося выратавацца толькі штурману экіпажа лейтэнанту **Міхаілу Панічкіну**. "Пасля таго як мы адбамбіліся ў раёне беларускага мястэчка Маладзечна, нас атакавалі варожыя знішчальнікі, – успамінаў пазней Герой Савецкага Саюза Міхаіл Сцяпанавіч Панічкін. – Прыйшлося пакінуць самалёт, які палаў. Да месца дыслакацыі дабіраўся восем дзён. Калі вярнуўся ў родны полк, даведаўся, што мяне ўжо пахавалі".

Міхаіл Панічкін вярнуўся ў часць 5 ліпеня, а 9 ліпеня ўжо зноў вылятаў на баявое заданне. І зноў быў збіты. За ўсю вайну шэсць разоў збівалі фашысты бамбардзіроўшчык Міхаіла, але заўсёды праз 2-3 тыдні ён нязменна вяртаўся на свой аэрадром. І гэта было не толькі шанцаванне, яшчэ – вывучка, мужнасць, жалезная воля і прага да жыцця.

За паспяховыя баявыя дзеянні Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 15 мая 1946 года Міхаілу Панічкіну прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Адзін дзень – 29 чэрвеня 1941 года. Адна эскадрылля – дзевяць самалётаў. Адзін баявы вылет. Тры самалёты збітыя. Восем чалавек загінулі, двое ў палоне. Адзін эпізод пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Адзін крок да Перамогі.

**Галіна АНІСКЕВІЧ,**
**гісторык, кіраўнік пошукавага атрада "Кацюша" Жодзінскай жаночай гімназіі.**

СПАЖЫВЕЦ

# Як выбраць добры чай?



Фота Настассі РОЎДЫ.

Чай "Лічы чырвоная сліва". Кветка чырвонай слівы пры заварванні раскрываецца.

**МАЛАДЗЕЧНА. Паліцы сучасных універсамаў і гіпермаркетаў перапоўненыя разнастайным чаем – звыклы ўсім нам чорны, зялёны, пуэр, улун, травяныя і фруктовыя чаі. Узнікае заканамернае пытанне: а як выбраць добры чай?**

Прадавец кавы і чаю **Вольга Немкаловіч** расказала нашаму выданню пра чайны асартымент у Маладзечне.

### Травяная сумесь

Папулярны чай сярод маладзечанцаў з травяной сумесі – гэта Кудзін Пілар. Ён вядомы, як горкі чай і мае ізумрудны колер. Гэты чай валодае лекавымі ўласцівасцямі. У ім высокая канцэнтрацыя вітамінаў і мікраэлементаў. Чай мае гарачкапаніжальны эфект. Выглядае ён як вялікая іголка. Адну такую іголку можна заварваць 5-7 разоў на 230-300 мілілітраў.

Ёсць араматызаваныя травяныя сумесі з дзікімі кветкамі і ягадамі.

Спадарыня Вольга расказала, што існуе і фруктовая сумесь. Яна змяшчае ў сябе кавалачкі яблыка, скурку шыпшыны, чарніцы і чорныя парэчкі, ваніль, гібіскус.

### Этнічныя чаі

– Добра купляюць зялёны чай Матэ, бо ён палепшае памяць. Папулярнасцю карыстаецца чай Ройбас. Ён бывае розны: з лясньмі і паўночнымі ягадамі, кажа прадавец Вольга. – Да таго ж гэты чай рэкамендуецца піць тым людзям, у якіх павышаны ціск, бо ён не змяшчае ў сабе шмат кафеіну.

### Зялёныя чаі

Зялёныя чаі маюць вельмі багаты асартымент і цікавыя назвы. Напрыклад, "Зялёная малпа" – сумесь зялёнага і белага чаю, лісце яго не скручанае, з маладымі пупышкамі і мядовым прысмакам.

А зялёны буйналістовы чай з яшчэ адной цікавай назвай – "Зялёная мантыя манаха" – мае водар лета.

Ёсць чай – кітайскі "Зялёны слімак". Буйныя лісцікі гэтага чаю скручаныя ўручную. Калі заварыць гэты чай, ён будзе зеленавата-аліўкавага колеру.

Існуе і шмат зялёнага араматызаванага чаю. Напрыклад, "Танцор мары", з прысмакам персіка, "Апошні самурай" – ванільны, а "Годжы-асаі" – з журавінамі ці малінай.

– Сярод маладзечанцаў хутка разыходзіцца зялёны чай з прысмакам журавін, бергамота, – кажа спадарыня Вольга.

### Чорны чай

– Чай Лапсанг Сушонг падабаецца толькі мужчынам, – кажа спадарыня Вольга. – Гэта падвэнджаны чай, яго лісціці завяльваюць над вогнішчам. А калі яго заварыць, ён становіцца цёмна-чырвонага колеру. Я некалі бачыла, як жонка не магла нават глядзець та тое, як яе муж набывае такі чай.

Гэты чай адзін з нядарагіх. Сто грамаў такога чаю каштуе 30 тысяч рублёў.

Ёсць шмат разнавіднасцяў араматызаванага чорнага чаю.

Хутчэй за ўсё разыходзіцца чай з прысмакам клубніц і ёгурту, а таксама чай – "Чароўны месяц". Асабліва жанчыны купляюць чай з назвай "Веліходная кветка" – гэта сумесь буйналіставога чаю з кветкамі васількоў, пялёсткаў сланечніку і водарам віна.

Папулярны чай і "Мексіканскае манга" – чорны, з кавалачкамі манга, кветкамі кактуса і граната.

### Чай пуэр

Гэта сапраўдны кітайскі чай. У асноўным ён спрасаваны.

– Напрыклад, вельмі цікавы і экзатычны чай – пуэр мандарын, – кажа спадарыня Вольга. – Гэта кітайскі элітны чай, запрасаваны ў лупіны мандарына. Калі яго заварыць, атрымаецца непразрысты настой з мяккім цытрусавым водарам. Такі чай можна заварваць як асобна, так і з лупінамі мандарына.

Чай пуэр бывае не толькі спрасаваным, але і рассыпным, да таго ж і араматызаваным.

Па словах прадаўца Вольгі Немкаловіч, папулярнасцю карыстаюцца чаі з водарам суніц з вяршкамі, манга і маракуі.

### Белы чай

– "Кітайская белая малпа" – адзін з самых распаўсюджаных, белы, лісце і пупышкі для яго сушаць на адкрытым паветры і яны атрымліваюць цікавую выгнутасць, – кажа спадарыня Вольга. – Такі чай каштуе 110 тысяч за 100 грамаў.

### Чай аалонг

Аалонгі – гэта вельмі дарагія чаі. (Аалонг – гэта значыць, чырвоны). Напрыклад, чай Да Хун Пао, што перакладаецца, як вялікі чырвоны халат, – самы дарагі. Гэты чай здымае эмацыйнае напружанне, мае патагонны эфект пры прастудных захворваннях. Яшчэ гэты чай цалкам раскрываецца толькі пры трэцім заварванні.

Добра карыстаецца папулярнасць чай – Тэ Гуань Інь. У ім вельмі буйныя чайныя лісцікі.

### Кітайскія элітныя чаі

Гэтыя чаі таксама ахвотна купляюць маладзечанцы.

"Вочы фенікса" – зялёны чай з маладога лісця з водарам язміну.

Хай Та (кітайскае надвор'е) – гэта самы дарагі чай. За сто грамаў такога чаю трэба аддаць 150 тысяч. Ён збіраецца ў правінцыі Юньнань, прычым выкарыстоўваюцца толькі пупышкі з адным лісцікам. Калі чай заварыць, ён атрымае бледна-жоўты колер. Заварваецца ён 5 разоў на 600 мілілітраў вады.

Некаторыя купляюць чай "Лічы чырвоная сліва". Выглядае ў форме шарыка. Унутры яго знаходзіцца кветка чырвонай слівы. Пры заварванні кветка раскрываецца. Гэты чай багаты вітамінам С і фосфарам.

### Які піць чай на працягу дня?

Раніцай лепш за ўсё вас пабудзіць белы чай ці зялёны. Яны нададуць бадзёрасць і тонус, а кафеін, які ў іх утрымліваецца, паскорыць цыркуляцыю крыві, што дазволіць вам хутчэй прачнуцца.

Днём лепш піць зялёны ці чорны. Зялёны чай вельмі добра зніжае нервовае напружанне, а таксама дапамагае засваенню ежы.

Вечарам піце чорны чай – ён не перашкаджае сну. Увечары можна піць і травяныя сумесі. Яны дапамогуць аднавіць і папоўніць запасы арганізма ў неабходных яму рэчывах.



Вольга ЮРКЕВІЧ
olga920420@gmail.com

| Курсы валют НБ РБ | 2.05 | 7.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 670,00 | **8 670,00** |
| Еўра | 11 330,00 | **11 360,00** |
| Злоты | 2 736,57 | **2 739,29** |
| Літ | 3 283,90 | **3 291,82** |
| Расійскі рубель | 279,50 | **279,00** |
| Грыўня | 1 068,39 | **1 070,37** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8640/8690 | **8640/8700** |
| Еўра | 11280/11360 | **11320/11400** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 30.04 | 7.05 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 114600 | **116150** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 43500 | **44750** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 58500 | **58500** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 23500 | **21900** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 32700 | **23500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 20500 | **20500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9700 | **11550** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9300 | **9900** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 11000 | **11000** |
| **Алей** | 15500 | **15450** |
| **Маянэз**, 200 г | 5300 | **4700** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7200 | **7800** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 8900 | **8900** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 3500 | **7500** |
| **Капуста**, 1 кг | 11500 | **11800** |
| **Морква**, 1 кг | 10000 | **7500** |
| **Буракі**, 1 кг | 5300 | **6500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 19500 | **21500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 13000 | **12000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 24000 | **19800** |
| **Памідоры**, 1 кг | 19000 | **21000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 19000 | **28500** |
| **Перац**, 1 кг | 30000 | **47000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 27000 | **27000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12500 | **12700** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 7500 | **7500** |
| **Грушы**, 1 кг | 22000 | **25800** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 10000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | - | **70000** |
| **Тварог**, 1 кг | 45000 | **35000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 17000 | **17000** |
| **Сала**, 1 кг | 58000 | **58000** |
| **Бульба**, 5л | 10000 | **12000** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **60000** |

ТРАНСПАРТ

# Расклад аўтобусаў на Радаўніцу

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі аўтапарк змяніў расклад руху аўтобусаў на Радаўніцу.**

Каб людзі змаглі прыбрацца на могілках у Лазаўцы, ад 9 па 13 мая адзін аўтобус будзе хадзіць са Старога Места ад 10.00 да 15.50.

– Што тычыцца 14 мая, то ад Старога Места будуць адпраўляцца пяць аўтобусаў праз кожныя 12 хвілін, – кажа дырэктар Маладзечанскага аўтобуснага парка **Яўстафій Каравай.** Аўтобусы будуць хадзіць на могілкі ад 9 гадзін раніцы да 5 гадзін вечара.

Шасцёрка будзе праваць як па будных днях і падвозіць людзей да Насілава. А пяцёрка будзе ісці не праз першую школу, а праз юнайтэд-кампані і падвозіць на старыя могілкі.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

ЗДАРЭННІ

# Дзеці знайшлі баявую гранату "Лімонка"

**МАЛАДЗЕЧНА. Яны натknуліся на яе ў гарадскім парку перад святам 1 Мая.**

Гранату ліквідавала група размініравання спецпадраздзялення "Алмаз".

Здарэнне адбылося 30 красавіка, за два дні да адкрыцця парку імя Перамогі.

30 красавіка вечарам, каля 19.50, школьнікі, якія гулялі ў парку, знайшлі там гранату Ф-1. Яны расказалі пра гэта нараду дэпартамента аховы, які праязджаў непадалёк.

Тыя паведамілі пра гранату ў райаддзел міліцыі. Міліцыя – у ваенкамат, адкуль і паступіла паведамленне ў МНС.

Потым паведамленне пра гранату накіравалі ў Мінск, у групу размініравання спецпадраздзялення "Алмаз". Каля 22 гадзін "Алмаз" прыехаў і знішчыў яе.

Пра гэта распавёў **Сяргей Гладкі**, намеснік начальніка па дзяржаўнай сістэме папярэджання і ліквідацыі надзвычайных сітуацый і па грамадзянскай абароне маладзечанскага гарраймаддзела па надзвычайных сітуацыях.

Якіх часоў граната, пакуль невядома.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**




Гранату такога тыпу дзеці знайшлі ў парку.

ПРАКУРАТУРА, СУД

## Мужчына з жанчынай абакралі кіёск

**МАЛАДЗЕЧНА. Ёй – 36 гадоў. Яму – 30, і ён ужо мае чатыры судзімасці.**

Жанчына са сваім мужам і знаёмым выпівалі 8 лістапада ў яе дома. Потым яны пасварыліся і выклікалі міліцыю. Мужа жанчыны забралі на суткі.

Каля 5 гадзін раніцы яна пакінула сваё малое дзіця дома і разам са знаёмым пайшла на вуліцу. Калі яны падышлі да кіёска, мужчына дастаў малаток і нож і ўзламаў ралет.

Жанчына залезла ўнутр і забрала адтуль 29 упаковак ігральных картаў, шмат пачак цыгарэт 16-ці відаў, дзіцячыя цацкі, батарэйкі, касеты для галення, кантрацэптывы, чыпсы, гарбату, шампунь, фарбу для броваў і павек, асвяжальнік паветра, ёлачны шарык, флікер, пульт і DVD-прайгравальнік, флэшку і 30 тысяч рублёў. Калі ўсё накрадзенае перавесці ў грошы, то атрымаецца 1 мільён 365 тысяч рублёў.

Мужчына ўзяў сабе тры пачкі цыгарэт і ўсё накрадзенае жанчынай паставіў каля кіёска. Заўважыўшы аўтамабіль, які якраз пад'язджаў да месца здарэння, збег.

Жанчыну ж затрымалі ў кіёску супрацоўнікі міліцыі. Ужо потым яна расказала, як усё адбылося.

Яны разам выпівалі і выраршылі схадзіць у краму па цыгарэты. Калі праходзілі каля кіёска, жанчына сказала, што ўмее адкрываць ралеты. Ён выраршыў дапамагчы і разбіў шкло. Тады жанчына залезла ўнутр і перадала мужчыну скрынкі з рэчамі.

У гэты час пад'ехала машына, і "калега" збег. Яна ж не змагла самастойна выбрацца з кіёска, і яе затрымалі.

Суд прыгаварыў абвінавачаную да года пазбаўлення волі. Але адтэрмінаваў пакаранне на год. Абвінавачанага ж суд прыгаварыў да трох гадоў пазбаўлення волі без накіравання ў выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу.

Суд таксама вынес прыватную пастанову у аддзел адукацыі Маладзечанскага райвыканкама з-за неналежнага выканання жанчынай сваіх бацькоўскіх абавязкаў, бо яна пакінула сваё малое дзіця аднаго дома.

**Іван НЕЎМЯРЖЫЦКІ, памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

## Пасварыліся, яна пырнула яго нажом, памірыліся

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося сёлета 5 студзеня ў Маладзечне.**

У той дзень 55-гадовая жанчына выпівала разам з мужчынам, з якім жыве. Падчас выпіўкі пасварыліся, і яна ўзгадала колішнюю крыўду: мужчына некалі яе ўдарыў. Тады яна схапіла нож і пырнула ў адплату яму ў жывот.

Цяпер яны памірыліся і працягваюць жыць разам.

Суд прыгаварыў абвінавачаную да абмежавання волі тэрмінам на тры гады і шэсць месяцаў без накіравання ў выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу.

**Сяргей ГАБРУКОВІЧ, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

СЛУЖБА 101

## Дзяўчынка за кіламетр пабегла за выратавальнікамі

**АШМЯНЫ. У сераду, 1 мая, днём ў вёсцы Гальшаны 42-гадовага мужчыну выратавалі ад пажару.**

Яго ў гэты дзень вырашылі наведаць дзеці і былая жонка. Калі яны падышлі бліжэй да хаты, то ўбачылі моцнае задымленне.

Бліжэйшае аддзяленне выратавальнікаў знаходзіцца прыкладна ў кіламетры ад вёскі. Дачка, якая яшчэ школьніца, хуценька туды пабегла і папрасіла іх аб дапамозе.

Ужо праз дзве хвіліны выратавальнікі былі на месцы пажару.

Адразу яны пабеглі ў дом, каб паглядзець, ці ёсць людзі. Там яны ўбачылі мужчыну, гаспадара дома, і выратавалі яго. Мужчына гарэў другі раз. Летась яго ад пажару выратавала суседка.

Папярэдняя прычына пажару – неасцярожнасць пры курэнні.

Пра гэта паведаміла прэс-сакратар Гродзенскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях **Наталля Жывалеўская**.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Маці выратавала ў час пажару сваё маленькае дзіця

**МЯДЗЕЛ. Здарэнне адбылося 1 мая каля 13.30 у вёсцы Студзяніца Мядзельскага раёна.**

Жанчына выйшла на вуліцу, пакуль яе дзіця, якому 1 год і 4 месяцы, мірна спала ў ложку.

Калі жанчына вярнулася – убачыла ў доме задымленне. Яна кінулася да суседа па дапамогу. Разам яны ўвайшлі ў дом, забеглі ў пакой, дзе спала дзіця, і ўбачылі, што тут ужо бачна полымя, а дым ідзе пад столю.

Маці схапіла сваё дзіця і вынесла на вуліцу. Мужчына ж паспрабаваў затушыць агонь, але не атрымалася, і яны выклікалі МНС.

У пажары ніхто не пацярпеў.

Хутчэй за ўсё ён адбыўся з-за кароткага замыкання.

Пра выпадак расказаў галоўны спецыяліст інспекцыі па дзяржпажнаглядзе Мядзельскага раённага аддзела па надзвычайных здарэннях **Юры Вашкінэль**.

**Настасся РОЎДА.**

СЛУЖБА 101

## Пасварыўся з жонкай і падпаліў сваю павець

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося каля 16.00 у нядзелю, 5 мая, у вёсцы Зоранька на Маладзечаншчыне.**

55-гадовы мужчына пасварыўся са сваёй жонкай падчас святкавання Вялікадня і, калі жанчына пайшла да суседзяў, з гора падпаліў сваю павець.

Але адной павеццю тут не абышлося. Полымя перакінулася на другую, на яго дачны дом і нават на чужую павець.

МНС выклікалі суседзі, якія ўбачылі, што нешта гарыць.

У пажары ніхто не пацярпеў.

Пра здарэнне расказаў інспектар інспекцыі дзяржпажнагляду Маладзечанскага гарраймаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Ляшковіч**.

**Настасся РОЎДА.**

## Затрымалі браканьера

**МЯДЗЕЛ. У Нацыянальным парку "Нарачанскі" 4 і 5 мая працавалі рэйдавыя групы па выяўленні і спыненні браканьерства.**

Работнікам Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету ўдалося злавіць злоснага парушальніка, жыхара к. п. Нарач (Купа). Ён шасцю рыбалоўнымі сеткамі і дзевяццю "тэлевізарамі" (маламернымі жаберными сеткамі) злавіў 172 плоткі на рацэ Нарачанка каля вёскі Чарэмшыцы.

Агульная вага рыбы – 23 кілаграмы. Прычыненая навакольнаму асяроддзю шкода – больш за 10 мільёнаў рублёў.

Цяпер узбуджаная крымінальная справа.

Дарэчы, у 2010 годзе гэты рыбак таксама прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за незаконную здабычу вугра на рацэ Нарачанка.

За ўчыненае зладзейства цяпер яму можа пагражаць пазбаўленне волі на тэрмін да шасці гадоў.

**Валеры КЛЯНОЎСКІ, начальнік Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Конкурс на лепшага матацикліста года

**МАЛАДЗЕЧНА. Ён пройдзе 17 мая на аўтадроме Маладзечанскай ДТСААФ у 10.00.**

У конкурсе ўдзельнічаюць усе ахвотныя кіроўцы матацыклаў, а таксама тыя, якія не маюць вадзіцельскага пасведчання, але прапісаныя на тэрыторыі абслугоўвання Маладзечанскай ДАІ.

Пры паспяховай здачы экзаменаў па правілах дарожнага руху і практычным кіраванні матацыклам, удзельнікам выдадуць вадзіцельскія пасведчанні. Каб іх атрымаць, неабходна падаць наступныя дакументы: заяву ўстаноўленай формы, пашпарт, медыцынскую даведку, квітанцыі аб аплаце (за вадзіцельскае пасведчанне – 200 тысяч рублёў, за прыём экзаменаў па правілах дарожнага руху і кіраванні – 10 тысяч рублёў, камп'ютарныя паслугі – 12 тысяч рублёў).

Конкурс праводзіцца 17 мая на аўтадроме ДТСААФ, *г. Маладзечна вул. Віленская д.64.*

Даведкі па тэлефонах: **73-48-00, 73-56-03, 74-53-45, 74-53-47.**

**Дзмітры ЮРКЕВІЧ, маёр міліцыі, старшы дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага РАУС.**

## Акцыя супраць кіравання ў нецвярозым стане

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 4 да 14 мая Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці праводзіць прафілактычную акцыю "Цвярозы кіроўца".**

Калі вы сталі сведкай альбо відавочцам кіравання транспартам у нецвярозым стане, просьба паведаміць аб гэтым па тэлефонах 77-16-56 альбо 102.

### Вынікі праверкі аўташкол

ДАІ Маладзечанскага РАУС напрыканцы красавіка правяла акцыі "Вучэбны аўтамабіль". Інспекцыя праверыла аўташколы на выпуск вучэбнага транспарту на лінію і вяртанне яго ў парк, парушэнні праграмных патрабаванняў і методык навучання, адхіленні ад навучальных маршрутаў.

У выніку знайшлі пяць парушэнняў пры навучанні. Накіраваныя чатыры прадпісанні ў аўташколы на ліквідацыю гэтых парушэнняў.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

# алми
## СЕТЬ МАГАЗИНОВ

ГАСТРОНОМ УЛ. Ф. СКОРИНЫ, 28
УНИВЕРСАМ УЛ. ВЕЛИКИЙ ГОСТИНЕЦ, 136

- 4300, скидка 25% — Продукт йогуртный Савушкин продукт жир.2% 220г РБ Лесная ягода/Клубника
- только в универсаме 9900, скидка 20% — Сыр Лактима плавленый ломтевой жир.36.2% 130г Польша Ветчина/Тосты
- 2500, скидка 20% — Мороженое Кинди аромат сливочного крема 60г РБ
- 36900, скидка 15% — Колбаса вареная Ласунак в/с 1кг РБ
- 113900, скидка 30% — Колбаса с/в Венецианская Элит в/с 1кг РБ
- 59900, скидка 20% — Бекон к/з Деревенский 1кг РБ
- 18900, скидка 15% — Минтай с/м б/г 1кг РФ
- 27900, скидка 15% — Красноперка подкопченная потрошеная 1кг РБ
- 11300, скидка 20% — Пицца Вичи с ветчиной и шампиньонами 300г РФ
- 2950, скидка 25% — Вкусовая приправа Мивина Куриная 90г Украина
- только в универсаме 3900, скидка 30% — Соус соевый Колумб 190мл Вьетнам В ассортименте
- 3750, скидка 30% — Соус Щедро 200г Украина Грибной/Тартар
- 3600, скидка 20% — Продел гречневый Ракан 600г РБ
- только в универсаме 11300, скидка 30% — Каша овсяная Терра б/п 38г*5пак Украина В ассортименте
- только в универсаме 14900, скидка 25% — Готовый завтрак Несквик Дуо 250г РФ
- только в универсаме 8500, скидка 20% — Пюре Флёр Альпин Органик 80г Германия Брокколи/Цветная капуста/Груша/Яблоко
- только в универсаме 3050, скидка 15% — Нектар/Сок детский Фруто Няня Малышам 0.2л РФ Яблоко-черная смородина/Яблоко/Яблоко-вишня
- 6500, скидка 35% — Нектар На100ящий 1л РБ Яблоко-вишня/Апельсин
- 7150, скидка 25% — Квас Хлебный Лидский темный 1.5л РБ
- 9500, скидка 30% — Чай черный Принцесса Нури Бест 100г РФ
- 14900, скидка 25% — Кофе растворимый Нескафе Классик 75г РФ
- только в универсаме 5950, скидка 30% — Молочный шоколад Соло 100г Польша В ассортименте
- 3350, скидка 20% — Мармалат жевательный Семейка 100г РБ Веселая осень/Чудо фрукты. Производитель: ОАО «Красный пищевик»
- только в универсаме 5700, скидка 20% — Печенье Ламзурь 170г РФ Звезда наслаждения/Закoлдованный мир
- 7700, скидка 30% — Вафли Мнямка 330г РФ Шоколад/Ваниль
- 4300, скидка 25% — Арахис жареный Бум 50г РБ Васаби/Лук
- 11500, скидка 25% — Чипсы Лейз 150г РФ Сметана-зелень/Краб
- 4350, скидка 20% — Семечки жареные с солью полосатые 7-ечка 75г РБ
- 8300, скидка 25% — Прокладки Натурэлла 7/10/12шт Украина В ассортименте
- только в универсаме 19900, скидка 30% — Дезодорант-антиперспирант Дав 150мл РФ/ Великобритания В ассортименте
- только в универсаме 14150, скидка 30% — Зубная паста Силка 100мл Германия Арктическая белизна/Натуральный экстракт
- 7900, скидка 30% — Туалетная бумага Рута Белая 4шт Украина
- только в универсаме 45900, скидка 20% — Стиральный порошок БиМакс Автомат 3кг РФ 100 пятен/Колор
- только в универсаме 14900, скидка 20% — Жидкость для стирки Софин Глобал 750мл Польша В ассортименте
- 6150, скидка 25% — Средство для мытья посуды Миф 500мл РФ Освежающая мята/Алоэ/Лимонная свежесть
- 3900 — Губки для мытья посуды Кинг Тонг 5шт Китай

ООО «Торгпин», Лиц.50000/26251 выд. Мингорисполкомом от 23.05.2012 по 20.06.2022, УНП 190679197.

товар, отмеченный данным ценником, реализуется в гастрономе: г. Молодечно, ул. Ф. Скорины и в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

товар, отмеченный данным ценником, реализуется только в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

## ЦЕНЫ ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫ С 8 ПО 21 МАЯ 2013 ГОДА

Количество товара ограничено. Товар подлежит обязательной сертификации. Скидки по дисконтным картам на товары, участвующие в акции, не предоставляются. Внешний вид товаров, представленных на фотографиях, может несколько отличаться от товаров, выставленных в торговом зале. При расхождении цен, указанных в листовке и магазине, верными считать цены в магазине.

# Літоўцам ламае мазгі, калі кажуць, што ВКЛ – беларуская дзяржава

**Бачанне гісторыі ВКЛ значна адрозніваецца ў залежнасці ад таго, з якога боку мяжы глядзець на агульнае мінулае.**

Разам з доктарам гістарычных навук, прафесарам універсітэта Вітаўта Вялікага ў Коўне **Русцісам Камунтавічусам** шукаем самыя неадназначныя падзеі ў беларуска-літоўскай гісторыі.

## Беларусы ведаюць, дзе каранавалі Міндоўга, а літоўцы – калі

– Калі Літва атрымала незалежнасць, перад кіраўніцтвам паўстала пытанне – калі адзначаць дзень дзяржаўнасці? – распавядае даследчык. – Усяго было чатыры варыянты.

Першы – 16 лютага, калі ў 1918 годзе была абвешчаная першая літоўская самастойная дзяржава, кшталту беларускай БНР. Але тагачасная Літва не мела ў сваім складзе Вільні, таму дату адхілілі.

Другая версія – 11 сакавіка. Менавіта ў гэты дзень у 1990 годзе быў абвешчаны Акт аб аднаўленні незалежнасці Літвы. Але дата была зусім нядаўняй і свежай, і не пакрылася "пылам стагоддзяў".

Трэці варыянт – дзень каранацыі Вітаўта. Дата, на якую была прысвечаная гэтая падзея, добра вядомая. Але ж каранацыі так і не адбылося. Недарэчна было б святкаваць дзяржаўнасць у дзень каранацыі, якой не было.

Заставаўся чацверты варыянт – дзень каранацыі Міндоўга. Праблема было толькі ў тым, што дакладнай даты ніхто не ведаў. На дапамогу кіраўніцтву прыйшоў гісторык Эдвардас Гудавічус: ён напісаў даследаванне, у якім абгрунтаваў верагоднасць таго, што каранаванне адбылося 6 ліпеня. Даследаванне пераклалі на чатыры мовы, дату прынялі. Цяпер у гэты дзень адзначаюць дзяржаўнае літоўскае свята.

– Натуральна, у беларусаў дата 6 ліпеня не сустракаецца, – працягвае Русціс Камунтавічус. – Затое сустракаецца месца: Міндоўг быў каранаваны ў Навагрудку. Пра гэта ўзгадваецца ў хроніцы Стрыйкоўскага. Да таго ж Навагрудак быў найбуйнейшым горадам таго часу, таму каранацыя там выглядае цалкам верагоднай.

Але Навагрудак не ўваходзіць у спрадвечныя тэрыторыі сучаснай Літвы. Калі літоўцы прызнаюць, што каранацыя прайшла ў Навагрудку, прыйдзецца прызнаць той факт, што самым буйным горадам ВКЛ быў нелітоўскі горад. Таму літоўскія даследчыкі прапануюць свае варыянты: ад Трокаў да Вільні.

## Дык на якой мове напісаныя Статуты ВКЛ?

Падаецца, што калі з каранацыяй Міндоўга ўсё выглядае цьмяна, то наконт мовы Статутаў ВКЛ спрачацца немагчыма – яго асобнікі дайшлі і да нашых часоў. Але літоўскіх гісторыкаў гэта не спыняе.

– Дзесяць мільёнаў беларусаў ведаюць, што Статуты пісаліся на старабеларускай мове, – кажа спадар Русціс. – Але ёсць тры мільёны літоўцаў, якія ўпэўненыя, што яны напісаны на канцылярскай славянскай мове.

Да таго ж мова Статутаў не гаворыць аб тым, на якой мове размаўляла насельніцтва ВКЛ, упэўненыя літоўскія даследчыкі. Яны прыводзяць у прыклад еўрапейскія краіны, дзе эліта размаўляла на латыні і на ёй жа пісала законы, а простыя людзі карысталіся нацыянальнай мовай.

Паралель літоўцаў відавочная: эліта ВКЛ карысталася канцылярскай славянскай, а насельніцтва… прататыпам сучаснай літоўскай.

## І хто перамог у Грунвальдскай бітве?

На гэтае пытанне і ў літоўцаў, і ў беларусаў таксама няма аднаго адказу. Адзінае, што вядома дакладна – у Грунвальдскай бітве перамаглі крыжацкую навалу.

– У шматлікіх летапісах і дакументах аднагалосна гаворыцца, што войскі з тэрыторыі сучаснай Літвы першымі саступілі з поля бою, – кажа даследчык. – Таму перад літоўскімі гісторыкамі паўстала праблема: як тады даказаць, што мы перамаглі?

Пры дапамозе малавядомых гістарычных дакументаў літоўцы прыйшлі да высновы: так, іх войскі проста збеглі. Але гэта была частка стратэгічнага плана. Тады на абарону ВКЛ сталі войскі з тэрыторыі сучаснай Беларусі і Польшчы. З імі крыжакі хутка разабраліся.

**І ў вырашальны момант вярнуліся тыя самыя "літоўскія" войскі, якія і давялі бітву да перамогі.**

– Гэта цалкам натуральная з'ява, – заўважае спадар Русціс. – Кожны народ піша сваю гісторыю, каб перадаць яе нашчадкам. Зразумела, што ў сваіх вачах мы хочам дамінаваць над іншымі. Каго зацікавіць мінулае, у якім адны паразы і няўдачы? Таму нашы даследчыкі павoдзяць сябе натуральна.

## Змаганне за "Пагоню" працягваецца

– Апошнія дыскусіі ў літоўскім парламенце ішлі пра тое, каб надаць нашаму чырвонаму сцягу з выявай герба "Пагоня" вышэйшы статус на дзяржаўным узроўні, – заўважае Русціс Камунтавічус. – Галоўным аргументам тых, хто выступаў "за" быў наступны: каб беларусы сабе не забралі.

Літоўцы бачаць ВКЛ цалкам літоўскай дзяржавай. Беларускія даследаванні і падручнікі амаль не перакладаюцца на літоўскую мову. Па словах Русціса Камунтавічуса, асноўная прычына гэтага ў тым, што беларусы могуць лёгка забраць тое, што літоўцы даўно звыкліся лічыць сваім.

Калі раней літоўцы спрачаліся за гістарычную спадчыну з палякамі, то цяпер даводзіцца яшчэ і з беларусамі.

– У дзевяностых гадах у нас у Літве былі грошы, на якіх з аднаго боку была нейкая жывёлінка, з другога – герб "Пагоня", – успамінае спадар Русціс. – Калі я ўпершыню прыехаў у Беларусь і пабачыў вашы "зайчыкі", у мяне быў шок. Гэта ж наша "Пагоня"! Толькі пасля заканчэння ўніверсітэта я зразумеў, што ўсё не так адназначна. Таму я разумею пачуцці сучасных літоўцаў, калі яны бачаць, як беларусы трымаюцца за "Пагоню". У іх таксама шок, бо яны нічога не ведаюць пра Беларусь.

## Якую Беларусь хочуць бачыць літоўцы?

Асобную ўвагу Русціс Камунтавічус звяртае на далейшае станаўленне Беларусі:

– Я прашу прабачэння, што не размаўляю па-беларуску. Ужо колькі гадоў збіраюся вывучыць мову, але мяне проста забіваюць вашы канчаткі! Некалі я іх усё ж асілю.




Фота забяспечана Русцісам КАМУНТАВІЧУСАМ.

**"Мова мяняе светапогляд", – упэўнены літоўскі выкладчык гісторыі Русціс Камунтавічус.**

**Мне вельмі дзіўна бачыць, што вы не карыстаецеся сваёй мовай. У нашым рэгіёне, дзе сканцэнтравана так шмат дзяржаў і народаў, вельмі важна мець адметнасць. Мова часам можа падавацца сімвалічнай рэччу, але гэта не так. Яна змяняе светаадчуванне.**

Але ёсць і пэўныя пазітыўныя змены. Вы ведаеце, што шмат беларусаў едзе ў Літву за пакупкамі. Калі я быў у гіпермаркеце ў Вільні і выбіраў тэлефон, то заўважыў, што ў многіх мадэлях асноўнай мовай выбрана беларуская. Змены ідуць малымі крокамі.

Мне хацелася б, каб беларусы развівалі сваё бачанне гісторыі ВКЛ, спрачаліся з намі. Я не баюся, што вы "ўкрадзяце" гісторыю ВКЛ. Знаёмства з беларускім пунктам гледжання расшырае гарызонты літоўцаў, прымушае нас думаць крытычна.

Для сваіх студэнтаў я праводжу асобныя лекцыі, на якіх пераконваю іх, што ВКЛ – беларуская дзяржава. Гэта проста ламае ім мазгі. Але тады яны пачынаюць думаць.

## Ці шмат агульнага ў цяперашніх літоўцаў і беларусаў?

– Я не ведаю, які народ беларусы лічаць самым блізкім для сябе, – кажа спадар Русціс. – Літоўцы могуць сказаць адназначна – беларусаў. Мы пражылі разам дзве тысячы гадоў і парадаксальна, што ў 20-м стагоддзі паміж намі раптам узнікла мяжа.

Па словах даследчыка, блізкасць нашых народаў склалася гістарычна. Палякі заўсёды прагнулі даказаць сваю шляхетнасць, што было нетыпова для жыхароў ВКЛ. Для латвійцаў больш блізкім народам былі немцы, да таго ж яны імкнуліся перасяліцца ў гарады. Беларусы і літоўцы заставаліся сельскім народам.

– Я памятаю, як у 1993 годзе пераехаў з Вільні ў Коўна, – дзеліцца ўспамінамі гісторык. – Жыў недалёка ад чыгуначнага вакзала, а гэта цэнтр горада. Дык вось тады я ўставаў разам з пеўнямі ў самым літаральным сэнсе: у цэнтры Коўна тады разводзілі курэй. А мой тата пісаў афіцыйныя звароты з просьбамі, каб гаспадары прыбралі сваіх свіней з-пад вокнаў, бо іх было вельмі шмат.

**Літоўцы падобныя да беларусаў не толькі сельскім ладам жыцця, але і меланхалічнасцю, надзеяй на тое, што нехта прыйдзе і зробіць так, каб усім было добра.**

– Мы такія падобныя, што часам аж жахліва робіцца! – кажа спадар Русціс. – У Літве людзі такія ж песімістычныя, як і ў вас. Ведаеце, у нас нават надаўна самы вялікі комік здзейсніў самазабойства. Гэта і смешна, і трагічна адначасова. Але мы хочам, каб Беларусь не забывалася на сваю адметнасць, развівалася ў нацыянальным рэчышчы. Суседзі, якія самі не ведаюць сябе, нам нецікавыя.



**Аляксандра ПАРАХНЯ**
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| Астравец | - 01591, |
| Ашмяны | - 01593, |
| Валожын | - 01772, |
| Вілейка | - 01771, |
| Маладзечна | - 0176, |
| Мядзел | - 01797, |
| Смаргонь | - 01592. |



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Альфа Рамэо 146 Вохег, 1995 г.в., 1,4 Б, добры стан, тэрмінова. Т. (8-029) 7581389.
- БМВ 525,1994 г.в., ТД, універсал, 5500 у.а., Вілейка. Т. МТС 5002280.
- ВАЗ 2102 у добрым стане. Т. (8-033) 6675605.*
- ВАЗ 2105, 1984 г.в., 1,3, аранжавы. Т. (8-029) 6045292.
- Джэта, 1991 г.в., 1,6 бензін, добры стан, дробныя праблемы па кузаве, 2800 у.а., торг. Т. МТС (8-033) 3014102.
- Дэу Матыз, 2009 г.в., залацісты, газ-бензін, 4900 у.а. Т. (8-044) 7943949.*
- Запчасткі да а/м ФВ Джэта, 1,6 бензін. Т. (8-029) 6809579.*
- ЗІЛ бычок, эвакуатар, г/п 4т, гідралябёдка, 11000 у.а. Т. (8-029) 6517444.
- Літыя дыскі з гумай 205/50 R15 з балтамі і кубкамі для ФВ:гума 175/70 R13-2шт. Т. (8-029) 6989617.
- Нісан Прымера, 2005 г.в., 1,8 бензін, 5 КПП, седан, шэры металік, 12200 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 6937101, (8-029) 6890450.
- Опель Амега В, 1990 г.в., універсал, газ-бензін, 2,0, кандыцыянер, сігналізацыя, АВС, 2 падушкі бяспекі, зімовая гума, 4500, торг. Т. Вэлком (8-029) 1468044.
- Опель Астра G, 2000 г.в., 2,0 ДТІ, сіні, 6650 у.а. Т. (8-029) 5083952.
- Пежо 407 SW, 2005 г.в., 1,6 Д, усе опцыі, універсал, 9750 у.а. Т. (8-029) 9820207.
- Пежо 807, 2,2 НДІ, 2004 г.в., выдатны стан, дыскі БМВ, 4 шт. – 60 у.а. Т. (8-033) 6665868.*
- Пежо Партнёр, 2010 г.в., 16 ТД, чорны, 1 тыдзень у РБ, усё акрамя скуры. Т. МТС (8-029) 5749165.
- Пежо-307, 2001 г.в., 1,6 бензін, сіні колер, 8111 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 1470901, (8-029) 1901806.
- Рэно 19, 1994 г.в., 1,9 монаўпрыск, добры стан. Т. (8-029) 8521634.
- Рэно Лагуна, 2001 г.в., 1,9 СДІ, шэра-перламутравы металік, 6500 у.а. Т. МТС (8-029) 8732688, (8-029) 5760962.
- Рэно Сцэнік, 1999 г.в., 1,9 ДТІ, на запчасткі. Т. Вэлком (8-044) 6653394.*
- Сітраэн ZX, 1992 г.в., 1,4. Т. (8-029) 8520727.
- Сітраэн Берлінга, 2001 г.в., на запчасткі. Т. МТС (8-033) 6653394.*
- Фіят Тэмпра, 1992 г.в., сіне-зялёны, праблемы па кузаве. Т. (8-029) 8612055.
- Форд Мандэа, 2002 г.в., 2,0 ТДСІ, універсал, 8100 у.а. Т. (8-044) 5769963.
- Форд Сіера, добры стан. Т. (8-029) 7613041.*
- Форд Транзіт, 1995 г.в., 2,5 дызель, белы. Т. (8-029) 2863748.
- Шэврале Матыз 1L, 2009 г.в., з Даніі, 4900 у.а. Т. (8-029) 6517444.
- Па запчастках: Гольф, Аўдзі, ФВ Т-5 2004 г.в., 1,9 ТД, МКПП, Мерседэс Бэнц Віта, 2006 г.в., 2,2 СДІ, МКПП, Судзукі Гранд Вітара, 2000 г.в., 2,5 Б, МКПП, ФВ G-4, 1,9 ТД, 2000 г.в., Аўдзі А9, 2000 г.в., 2,7 БТ, АКПП. ІП Яраўскі В.І. УНП 591801368. Т. (8-029) 2658561, (8-044) 7728292.*
- Па запчастках: Таёта Камры, 2003 г.в., 2,4S АКПП, Хонда CR-V, 2007 г.в., 2,2 ТД, МКПП, поўны прывод, усё на запчасткі. ІП Яраўскі В.І. УНП 591801368. Т. (8-029) 2658561, (8-044) 7728292.*
- Рухавік з кап. рамонту СМД-14. Т. (8-029) 7026647.

### КУПЛЮ

- А/м (іншамарку) не старэй 1990 г.в., да 5000 у.а. Т. Вэлком (8-044) 4871003.*
- А/м аварыйны. Т. (8-029) 7703397.*
- А/м да 3500 у.а. Т. МТС (8-033) 3711742.*
- А/м з праблемамі. Т. (8-029) 7088846.*
- А/м любы, з любымі няспраўнасцямі, забяру сам. Т. Вэлком (8-029) 9164963.*
- **А/М** на хаду, можна з дэфектамі. Т. (8-029) 9961242.*
- **А/М У ЛЮБЫМ СТАНЕ. ДОРАГА! Т. (8-044) 7601222.**
- А/м у любым стане. Т. Вэлком (8-029) 9961242, МТС (8-029) 7918210.*
- Будку ізатэрму на Газэль. Т. 772330, (8-033) 6650561.*
- Іншамарку ў любым стане. Т. МТС (8-029) 5036715, Вэлком (8-029) 6036715.*







## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў цагляным доме ў Вілейцы, вул.Гагарына, 9, тэрмінова! Т. (8-029) 2545002.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 6 мкр., 1 паверх 5-павярховага панельнага дома, 38,1/17,5/8,8, санвузел раздзельны, кладоўка 1,8, падвал. Т. (8-0176) 74-48-83, Вэлком (8-029) 3671871.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул.Б.Хмяльніцкага, 1 паверх, 34,7/19,7/7,1, санвузел раздзельны. Т. (8-029) 5523988.*
- 2-пакаёвая кватэра па вул. Ясінскага, 9. Т. (8-029) 6553816.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул.Валынца. Т. (8-025) 9815442.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул.Незалежнасці, 36000 у.а. Т. (8-029) 7482397.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул.Вадап'янава, 76, 1-паверх, 67,5 кв.м, вокны ПВХ, тэлефон, склеп, 28000 у.а. Т. (8-029) 6515525.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, р-н гімназіі №6. Т. МТС +37529573937.*
- 3-пакаёвая кватэра, вул.Валынца, 2А, 5/4, 59,4/37,6/15,2/8,4, 50000 у.а. Т. (8-029) 6654868.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, р-н музвучылішча, вул.Забэйды Суміцкага. Т. (8-033) 3536542, (8-033) 3915673.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, 5/1-паверх. Т. (8-025) 5459808.*
- 4-пакаёвая кватэра. Т. (8-029) 2781970, (8-044) 7312941.*
- Гараж у ГБК у Маладзечне, фестывальны. Т. МТС (8-029) 7726530, (8-0176) 743780.*
- Гараж у ГБК-2 у Вілейцы, яма, падлога драўляная, падшытая столь. Т. (8-029) 5537683.*
- Гараж у ГБК-5 у Вілейцы. Т. (8-029) 5747680.
- Дача недабудаваная, 5х6 кв.м) у садовым таварыстве Масціўча, зямельны участак 0,1 га., 1000 у.а. Т. (8-029) 3911232.*
- Дача ў дачным пасёлку Кардон, 4000 у.а. Т. (8-01771) 51582.
- Дом драўляны, часткова з мэбляй (новай), 6,5х10,5, аграгарадок Ілья Вілейскага р-на, усе камунікацыі, у доме гарачая вада, ацяпленне пячное+камін, 2 пакоі, гасціная, кухня, душавая, хлеў, куратнік, навес для дроў, 46 сотак. Т. (8-029) 7360224.*
- Дом з участкам у в.Порса, Вілейскі р-н. Т. (8-033) 3131426.*
- Дом с гаспабудовамі ў в.Жаўткі. Т. (8-029) 5073134, (8-029) 7688650.
- Дом у в.Заберазь Іўеўскага р-на Гродзенскай вобл., 5х6, 15 сотак, магчымы любыя варыянты, 5000 у.а., торг. Т. (8-033) 6614156.
- Дом у в.Куранец, больш за 100 кв.м, без выгод, участак 0,4 га. Т. (8-029) 5609398, (8-029) 5609402.
- Дом у в.Трыгузы, 25 сотак, сад, калодзеж на ўчастку, побач лес, 2500 у.а. Т. МТС (8-029) 2631449.*
- Дом у Валожыне. Т. Вэлком. Т. (8-029) 6813310.
- Дом у вёсцы для вывазу. Зруб у добрым стане, Вілейскі р-н. Т. (8-029) 2472874.
- Дом у вёсцы, Вілейскі р-н, для аграбізнесу, лес, рака побач. Т. МТС 5557196.*
- Дом у Вілейцы, цэнтр, вада, газ. Т. (8-029) 5751771.*
- Катэдж цагляны ў Вілейцы, 140 кв.м, вада, каналізацыя, аўтаномнае ацяпленне, па вуліцы газ, 11 сотак, сад, гаспабудовы, нядорага, тэрмінова. Т. (8-033) 3543855.
- Участак і дом у стадыі рэканструкцыі, новы дах з металачарапіцы, склеп, газ, гаспабудовы, Вілейскае вадасховішча 1,2 км. Т. (8-029) 1282167.
- Участак у в.Насілава, вада, 220/380в, газ па вуліцы, пабудова, частковы фундамент. Т. (8-029) 1429999.*
- Участак у в.Савіна, Вілейскі р-н. Т. (8-029) 6028263.*

### КУПЛЮ

- Участак ці дом пад знос у Маладзечне ці прыгарадзе для будаўніцтва дома. Т. (8-029) 6262756, (8-029) 2505060.*

### МЯНЯЮ

- 3-пакаёвую кватэру на 1-пакаёвую па вул.Гагарына, 11-15. Т. (8-033) 3209338.*

### ЗДАМ



- Кватэру на суткі, гадзіны ў Маладзечне, цэнтр. Хуткае засяленне, канфідэнцыйна. Камфорт, утульнасць, акуратна. Камандзіраваным справаздачныя дакументы. ІП Гардовіч А.А. УНП 691506689. Т. Лайф (8-025) 7891016.*
- Памяшканне ў арэнду для правядзення ўрачыстых мерапрыемстваў у кафэ "УЮТ" у а.г. Крэва, Смаргонскі р-н. ЧТУП "ВІТАНтрэйд". УНП 590834615. Т. (8-01592) 93635, (8-029) 1855548.*

### НАЙМУ

- 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне, чысціню і своечасовую аплату гарантую, тэрмінова. Т. (8-029) 5737644.*
- Жыллё для маладой сям'і з 3 чалавек, разгледзім любыя прапановы. Т. (8-029) 5671859.
- 1-2-3-пакаёвую кватэру для арганізацыі на працяглы тэрмін у Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5740954.*
- 1-2-3-пакаёвую кватэру на працяглы тэрмін у Маладзечне, з добрым рамонтам і наяўнасцю мэблі. Т. Лайф (8-025) 7516297.*
- 1-2-пакаёвую кватэру для маладой сям'і з двума дзецьмі, тэрмінова. Т. (8-025) 9428511.
- 1-2-пакаёвую кватэру ў цэнтры Маладзечна для маладой сям'і (ёсць дзіця), пажадана са свежым рамонтам, на доўгі час. Добрыя гаспадары, гарантуем чысціню і своечасовую аплату. Т. (8-029) 5777020, (8-033) 6612108.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- **"АЛЯКСАНДРА"** – новы вясельны салон, выпускныя і дзіцячыя ўборы. ІП Ліпніцкая А. Г. УНП 691397956. Т. (8-029) 9509215, (8-044) 7567877.*
- **"МАДЛЕН"** – новае паступленне еўрапейскіх мадэляў. Маладзечна, вул. Валынца, 12, 2-паверх. ІП Кароль Т. Н. УНП 690494373. Т. (8-029) 3611420.*
- **"МІЛЭДЗІ"** – вясельныя ўбранні. Вялікі выбар. Маладзечна, вул. Віленская, 12 (атэлье "Бярозка"). ІП Казлоўская Т.І. УНП 690154367. Т. (8-0176) 777382, (8-029) 3677382, (8-029) 2727483.*
- **"НАДЗЕЯ"** – вясельныя, выпускныя, дзіцячыя ўбранні. Маладзечна, ГАЦ "Модуль", месца №63. ІП Ліпніцкая Г. С. УНП 600328327. Т. (8-029) 3024418.*













## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце RH.by*

• Паслугі повара: вяселлі, банкеты. ІП Худалей. УНП 691167697. Т. (8-01771) 20895, (8-029) 8650267.*

• **ПРАКАТ БЕЛАГА ЛІМУЗІНА. КАДЗІЛАК.** ІП Аладка А.І. УНП 690337519. Т. (8-029) 3483306.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• Вясельная, сямейная, дзіцячая фотаздымка. Т. (8-033) 6342820. www.safonova.org.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• **IVECO**, бартавы, тэнтаваны, да 4 т, 23 куб.м, усе віды загрузак, РБ, РФ. ІП Хруцкі А.П. УНП 691297090. Т. (8-033) 6666687, (8-029) 5777020.*

• МАЗ, самазвал, 10 т; пясок, жвір, ПГС, раствор, бетон, вываз смецця. ІП Сушко А.А. УНП 690690644. Т. (8-029) 3385358, (8-029) 7588449.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР JCB, ГЛЫБІНЯ КАПАННЯ 3 м, 3 КАЎШЫ (ПАД ВАДУ, КАНАЛІЗАЦЫЮ, ПАДМУРАК, ТРАНШЭІ І Г.Д.).** ІП Бялько Н.А. УНП 691398169. **Т. МТС (8-029) 7039869, ВЭЛКОМ (8-029) 6050781.***

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР JCB, ГЛЫБІНЯ КАПАННЯ 3 М, 3 КАЎШЫ (ТРАНШЭІ ПАД ВАДУ, ФУНДАМЕНТ, КАНАЛІЗАЦЫЮ І Г.Д.).** ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. **Т. (8-029) 6926052.***

• Рэно Маскот, 3,5 т., 20м3, 4,5мх2,2х2,2, усе віды загрузкі, ёсць санітарны пашпарт. ІП Маляўка А.В. УНП 691502867. Т. (8-029) 2525329, (8-029) 6925329.*

• Самазвалы МАЗ 5516 – 20 тон, МАЗ 5551 - 10 тон (пясок, гравій, шчэбень, смецце, вываз снегу), мэблевы фургон Мерседэс 410 - 2 тоны, 16 куб.м. ТАА "МатэкПро". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

• Франтальны пагрузчык ТО-18, коўш 2 куб.м (планіроўка, капанне катлаванаў, пагрузка смецця, снегу) і кранавая страла г/п да 2 тон (разгрузка блокаў, цэглы, абсталявання). Экскаватар ЮМЗ (каўшы 40 і 60 см). Міні-экскаватар УСВ (глыбіня да 2,7 м). ТАА "МатэкПро". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Аддзелка, абліцоўка, любыя віды бетонных работ (сцяжкі, адлівы і іншае), кладка тратуарнай пліткі. ІП Фалей Д.В. УНП 691288730. Т. (8-033) 3352254.*

• Арэнда, паслугі міні-экскаватара: катлаваны, калодзежы, траншэі і інш. ІП Сурынт Е.Ю. УНП 691508985. Т. (8-025) 5250098.*

• Ацяпленне, устаноўка катлоў, мантаж сантэхабсталявання. ІП Ражкоў С.А. УНП 691507631. Т. (8-033) 3353199.

• Бурэнне свідравін на ваду, палі, 125 мм, 50 мм, дагавор, гарантыя 5 гадоў, сертыфікат якасці матэрыялаў. Глыбінная помпа і гідрафор, палі 250 мм, глыбіня 2 метры, падмуркі, платы і інш. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. (8-029) 7860317, (8-029) 8817111.*

• Гідраманіпулятар на базе КАМАЗ, грузападымальнасць 10 т., борт 2,40+5 м, вылет стралы 8 м, да 2,5 т. ІП Кароль Е.І. УНП 69469858. ІП Кароль Е.І. Т. (8-029) 2638867, (8-029) 1588094.*

• Дах, уцяпленне, аддзелка ўнутраная, вонкавая. Вагонка. Сайдынг. Блок- хаўс. ІП Ходаль В.А. УНП 391074376. Т. (8-029) 9497847, (8-029) 8910834.*

• **ДЗВЕРЫ МІЖПАКАЁВЫЯ І ЎВАХОДНЫЯ**. Вытворчасць РБ і РФ. Зручныя цэны. Замер бясплатна. ІП Салагуб А.С. УНП 691507749. Т. Вэлком 6941988.*

• Дрэсіроўка сабак у групе і індывідуальна. Заняткі праводзіць дасведчаны інструктар. ІП Суханава О.Л. УНП 590977418. Падрабязнасці па тэл. (8-025) 7492907.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• **ЗАТОЧКА ІНСТРУМЕНТУ**, ланцугоў бензапіл, дыскавых піл, свердлаў, нажовак па дрэве і г.д. Вул.Касманаўтаў 1-а, ларок "Выраб ключоў". ПП "Майстарключ". УНП 190923089. Т. (8-029) 3731067, (8-029) 3811905.*

• Земляныя паслугі міні-экскаватара JCB 803 PLUS (траншэі, катлаван пад газ, водаправод, падмурак), глыбіня 2,7 м. ІП Матусевіч Ю.Н. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, трамбовачныя машыны, бурэнне свідравін. ІП Кісель А.П. УНП 691507139. Т. (8-029) 9098949.*

• Нацяжныя столі. ІП Жукаў А.А. УНП 691167273. Т. (8-029) 6301204, (8-029) 5024464.*

• Прафесійныя музыкі. Вясёлы тамада. Т. (8-033) 6635375.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Рамонт, настройка піяніна, баянаў, гармонікаў, акардэонаў. Выезд да заказчыка. ІП Арловіч А.І. УНП 600181258. Т. (8-029) 6166674, у Маладзечне 749836.*

• Распілоўка лесу з выездам да заказчыка (дошка, брус, кроквенная сістэма). ІП Гардзей А.У. УНП 591700580. Т. (8-029) 6141320, (8-029) 9439027.*

• Сайдынг, блок-хаўс, мантаж. Дах любой складанасці. ІП Шульга В.І. УНП 691402024. Т. Вэлком (8-044) 5528310.*

• Устаноўка, зборка, рамонт корпуснай мэблі ў офісах і кватэрах. Даступныя цэны. ПУП "БенаРыка". УНП 691503914. Т. (8-033) 3908204, (8-029) 3876197.*

- **УЦЯПЛЕННЕ ГАРЫШЧАЎ**, мансардаў, фасадаў, міжсценавых пустот. Уцяпляльнік эквавата "Грын Палп". ІП Шульга У.І. УНП 691402024. Т. (8-033) 6008046. *
- Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*
- Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*
- **ШКЛО! НАРЭЗКА: АКОННАЕ, УЗОРЫСТАЕ І ЛЮСТЭРКАЎ**. ТАА "ДрэўПрамГандаль". УНП 691288784. Т. МТС (8-029) 5578917, Вэлком (8-029) 6103437.*
- **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння (фігуркі з шарыкаў, мыльныя бурбалкі), выпускныя вечары і іншае. Вядучы на вяселле, карпаратывы, юбілеі. ІП Кананові І.Е., УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692.*

## РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- Блокі г/с, пліты перакрыцця, ФБС. ЧП "ВоІлСтрой". УНП 591802229. Т. (8-044) 5500334, (8-029) 8669921.*
- Блокі г/с, ФБС (падмуркавыя блокі, бетон, раствор, піламатэрыялы, цэгла, пліты перакрыцця, любая ф/а, дастаўка. ПП "Звездачот". УНП 691172990. Т. (8-029) 8774124.*
- Блокі г/с, цэгла, гаражныя вароты, усё б/у. Т. Вэлком (8-044) 5660869, МТС (8-033) 6672830.
- Бэлька, брус, дошка, кроквенная сістэма, наяўны, безнаяўны разлік. ПВУП "Лебрус". УНП 691171555. Т. (8-029) 8629860, (8-033) 3522926.*
- Вагонка. Т. (8-029) 6954737.*
- Дошка абразная 7 куб.м, брус 5 куб.м, брусок 4 кв.м, даўжыня 6 м, памер розны. Т. Вэлком (8-029) 3766191.*
- Профнасціл арачны ацынкаваны, 150 лістоў, цана дагаворная. Т. (8-029) 1979073.

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Арматура Ш 8,10,12,14 па 3-6 м. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 7737697.*
- Бензакаса, бетонамяшалка, камень 6,5 куб.м. Т. (8-029) 2599940.
- Бензатрымер, 3,8 кВт, Германія, новы, 160 у.а. Т. (8-033) 6034106.*
- Бетонамяшалка,воданагравальнік, помпа 14 куб.м/гадз., бензакаса, труба поліпрапіленавая. Т. (8-029) 2599940.*
- Вугалок, арматура, сетка для сцяжкі, дошка для апалубкі. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-033) 6603068.*
- Гідраізаляцыя, 10 трубак. Т. (8-029) 3837697.*
- Каса бензінавая KWT. Т. (8-029) 6399324.
- Культыватар-Чызель, прычэп 4 т, прычэп ад "мурашкі", запчасткі, прычэп "шаланда". Т. МТС 7528897.
- Трактар МТЗ-50, пярэдні мост, стартэр, кун (коўш, вілы), усё у выдатным стане, з дакументамі + ёсць ўсё навяснае. Т. (8-029) 5380957 (пасля 18.00).
- Трактар самаробны трохколавы, 1,5 тон, 4,5 л.с., 6000000 руб. ці мяняю на жалезную печку, Валожын. Т. (8-029) 1716837.

**Бытавая тэхніка**

- Газавая пліта Гефест 3200-05, піяніна Акорд г.Ленінград, б/у. Т. (8-029) 9228130.
- Газавая пліта Гефест, 50х60, новая, нядорага, са шлангам. Т. МТС (8-033) 6041642.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ «ТРЫКАЛОР» - СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. **Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.***
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Абаненцкай платы няма! Растэрміноўка без працэнтаў. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. Т. (8-029) 7627898.*
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Высокая якасць адлюстравання. Гарантыя. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413.Т. (8-029) 3326779.*
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Кантроль якасці. Т. (8-029) 5702212.*
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Трыкалор. Т. (8-029) 9056393 Вэлком.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320, **www.literal.deal.by***

СТАРЫ АЛЬБОМ

# Дзяцінства далёкага сонечны праменьчык...

**Гэты здымак зроблены ў 1951 годзе. Вілейка, школа №1, 4 клас.**

Захаваўся ён у мінчанкі **Тамары Аляксандраўны Усціновіч**. На здымку яна побач з настаўніцай **Вольгай Восіпаўнай Малафеевай (Астапавай)**.

Вользе Восіпаўне пайшоў 88 год. З цеплынёй успамінае ўсіх сваіх выхаванцаў, з якімі дзялілася ведамі 43 гады, працуючы настаўніцай рускай мовы і літаратуры ў школе.

Адгукніцеся, хто пазнаў на гэтым здымку сябе альбо сваіх родных, знаёмых.

**Леанід РУСАК, Маладзечна.**



Фота забяспечана Леанідам РУСАКОМ.

НАМ ПІШУЦЬ

# Няжжатая паласа

***Добры дзень, паважаная рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты". Сёлета я пішу вам першы раз. У 2012 годзе напісала тры разы. Два мае апавяданні вы надрукавалі. Я ўжо напісала (і вы іх надрукавалі) 16 ці 17. Усе яны ў мяне ёсць, я іх выразаю з газеты на памяць. Пераважна пішу пра людзей, пра іх жыццё, пра іх складаны лёс. Аднойчы ў газеце ваша карэспандэнт Марына Сліж напісала: "І адкуль Галіна Буркевіч бярэ тэму?" І сама ж адказвае: "Напэўна, з жыцця". Так яно і ёсць. Я ўжо пажылая пенсіянерка, 74 гады, але пісаць мне хочацца пра людзей, пра іх лёсы. Вось і сёння я пакорпалася ў сваёй памяці і пішу пра лёс жанчыны, якая жыла ў нашай вёсцы па суседстве з намі, назаву апошні так: "Няжжатая паласа".***

Яе невялікая хатка знаходзілася ў самым канцы вёскі, амаль наводшыбе, зусім блізка каля лесу.

Цяпер яна пустуе, а некалі жыла ў гэтай хатцы сям'я. Гаспадар Іван працаваў у будаўнічай брыгадзе ў калгасе, сынок Рыгор – трактарыстам у гэтым жа калгасе. А яна, Валька (Іваніха клікалі яе жанкі), працавала на палявых работах.

## Бяда ідзе, а за сабой другую вядзе

Сям'я як сям'я. Як і ва ўсіх людзей, са сваімі нягодамі і радасцямі, са сваімі клопатамі. Парушыла іх мірнае жыццё праклятая вайна. Івана ў першыя дні забралі. Але нядоўга яму давялося ваяваць, раніла моцна, адарвала нагу.

Так і вярнуўся ён на мыліцах, а дома зрабіў сабе драўляную нагу ды так і шкандыбаў па сваім падворку, даглядаў няхітрую гаспадарку (парсючок ды некалькі курак). Здавалася б, ну вярнуўся жывы, хоць і паранены, але рана не давала яму спакою. Яна балела, ныла, крывавіла. Не меў ён спакою з ёй ні днём, ні ноччу. Чалавек, які бачыў смерць у вочы, плакаў ноччу ў падушку.

Другая бяда прыйшла да іх у 44-м, калі па павестцы з ваенкамата забралі на вайну іх сына Рыгорку. Трохкутнікі-лісты прыходзілі да іх часта, Рыгор пісаў, як ваяваў, якія месцы праходзілі, а апошні ліст быў ужо з-за мяжы. Так-так, апошні. Доўга весткі не атрымлівалі бацькі, а нарэшце прыйшла казённая папера: "Прапаў без вестак".

Галасіла Іваніха па сыночку і дзень, і ноч. Іван трымаўся, супакойваў жонку. Казаў, што гэта не забіты. Можа, у палон патрапіў. Можа, памылка якая атрымалася. А сам думаў: "Тут трэ-цяга не дадзена".

Моцна ўзяў у галаву і Іван. Захварэў, злёг. А тут і рана крывавіць стала. Абяссілеў. А ў хуткасці і памёр.

Засталася Іваніха адна. І дзень, і ноч давала яна волю слязам. Ночы бяссонныя праводзіла стоячы ля акна. Стане, прыціснецца гарачым ілбом да халоднай шыбы ды так і прастаіць моўчкі амаль што да раніцы.

## Здань

Стаіць аднаго разу жанчына ля акна, углядаецца ў цемень, ды аж жахнулася, калі прыгледзелася, у цемры на двары стаіць яе Рыгорка. Сам у шынялі, а рукі худыя чамусьці на грудзях скрыжаваныя ляжаць.

Закрычала жанчына, кліча сыночка ў хату. А ён пытае: "Мама, ці спякла ты булку?".

Выскачыла Іваніха ў сенечкі, адсунула засаўку, а на двары цемень несусветная. Да раніцы ні на валасок не заснула, думала: што ж гэта было?

## У чаканні сына

А што рабіць ёй яна ўжо ведала. Звязала ў хустачку некалькі яечак ды і папялася з кіёчкам да брыгадзіра на другі канец вёскі, ён трымаў коніка.

Дамовілася з гэтым чалавекам, паабяцаў, што заўтра раніцою прыедзе да яе і ўзарэ на агародзе палоску, а яна ўжо знае, што з ёй рабіць.

Так і было. Узараў чалавек недзе сотачку, падзякавала старая. Сама працавала амаль два дні. Граблямі разбівала груды, выдзірала карані, чуць да ложка дапаўзала. А паслязаўтра сустрэла паштарку, папрасіла, каб яна, калі будзе ў суседняй вёсцы, прынесла ёй ад швагры пару кілаграмаў пшаніцы.

Пасеяла тое збожжа, як магла, паставіла два пудзілы, а днём і сама падыходзіла на сваю раллю.

Добранька ўзышла пшанічка, роўненька, гусценька, не нарадуецца старая.

Панадзіліся ў нашу вёску варажбіткі. Як саранча высыпалі яны і шнырылі па хатах. Выманьвалі ў людзей усё, што бачылі іх нахабныя вочы. Людзі хаваліся, зачыняліся, бо і самім не было чаго есці, а тут яны, нахлебнікі. Асабліва былі нахабнымі маладыя, цяжарныя, ды з малымі дзецьмі на грудзях. Але Іваніха іх не праганяла, яна кожны раз варажыла на сына. Як згаварыўшыся, яны ўсе казалі, што сын яе на чужыне, жывы, вернецца дамоў, калі зямля пакрыецца снегам.

Раней, бывала, старая не любіла зіму, а то не магла дачакацца.

Занядужала, злягла.

Прыходзіла суседка, прыносіла такія-сякія харчы, але Іваніха адчувала сябе дрэнна.

На той палосцы добра вырасла пшанічка, такія тоўсценькія каласкі, даўно пара было яе касіць, суседка прапаноўвала дапамогу, але старая ўсё хацела зрабіць сваімі рукамі.

Яна касіць не будзе, яна ўжо заўтра на досвітку ўстане, пасцеле на паласку посцілку-саматканку, а пшанічку сярпом будзе жаць па жменьцы, пакладзе на дошчачкі, затым акуратна пранікам будзе выбіваць зярняткі з каласкоў. Затым прасее, правее пшанічку, занясе да суседа ў жорны, змеле на муку, будзе сыночку булка.

## Сын вярнуўся з вайны

Раніцою да суседкі на веласіпедзе прыляцела паштарка, яна сказала, што ў канцы вёскі толькі што абагнала салдата з вялікаю валізкаю, гэта быў Рыгор.

Як шалёная ўляцела суседка да Іваніхі, крыкам крычала, што сын яе жывы, што ідзе дамоў: "Чаго ляжыш, час госця сустракаць!"

Але Іваніха ўсяго гэтага ўжо не чула. Была харошая сонечная раніца, адкуль ні вазьміся, наляцела цёмная, чорная хмара. Заляталі, закружылі ў паветры сняжынкі ды ціхенька лажыліся на сухую цёплую зямлю.

**Галіна БУРКЕВІЧ, мястэчка Ілья.**

КАЛЯНДАР

**10 мая.** 130 гадоў з дня нараджэння Янкі Маўра (сапр. Іван Міхайлавіч Фёдараў, 1883–1971), пісьменніка, перакладчыка, аднаго з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры, заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Першы буйны твор – навукова-мастацкая аповесць пра паходжанне чалавека. Аўтар першага ў беларускай літаратуры прыгодніцкага рамана "Амок". Янка Маўр стварыў новы тып прыгодніцкіх рамана і аповесці ("Палескія рабінзоны" і "ТВТ"). З яго імем у беларускай літаратуры звязанае і асваенне жанраў навукова-фантастычнай ("Фантамабіль прафесара Цылякоўскага") і аўтабіяграфічнай ("Шлях з цемры") аповесцей.

***

**110 гадоў** з дня нараджэння Марка Моіна (1903 – 1969), акцёра, рэжысёра, заслужанага артыста Беларусі.

***

**11 мая.** 180 гадоў з дня нараджэння Бенядзікта Дыбоўскага (1833–1930), заолага, прыродазнаўца, лекара. Нарадзіўся ў маёнтку Адамарын, цяпер Маладзечанскі раён. Скончыў Дэрпцкі ўніверсітэт. Быў прафесарам кафедры заалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. За ўдзел у паўстанні 1863–1864 гадоў сасланы ў Сібір. Апісаў прыродныя ўмовы Прыбайкалля. Сабраў вялікую калекцыю прадстаўнікоў фаўны Сібіры. Працаваў доктарам на Камчатцы, загадваў кафедрай заалогіі Львоўскага ўніверсітэта, арганізаваў музей.

***

**12 мая.** Дзень Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь.

***

**13 мая.** 80 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Кішчанкі (1933–1997), беларускага жывапісца, мастака па габелену, народнага мастака Беларусі.

***

**14 мая.** 105 гадоў з дня нараджэння Ніны Ватацы (1908–1997), бібліёграфа і літаратуразнаўца, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

***

**20 гадоў** з часу стварэння (1993) Выканаўчага сакратарыята Садружнасці незалежных дзяржаў (створаны на базе Рабочай групы для арганізацыйна-тэхнічнай падрыхтоўкі і правядзення пасяджэнняў саветаў кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў).

***

**16 мая.** 75 гадоў з дня нараджэння Анатоля Луцэвіча (1938–2002), акцёра, заслужанага артыста Беларусі.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# *Міхаіл Чарняўскі:* “Трэба, каб маладое пакаленне ведала, што перажылі іх дзяды”



Міхаіл Чарняўскі.



Міхаіл Чарняўскі ў маладосці.

**МЯДЗЕЛ. Напярэдадні Дня Перамогі нашым госцем стаў Міхаіл Чарняўскі з курортнага пасёлка Нарач (Купа), партызан, ветэран вайны, журналіст. У час вайны быў двойчы паранены.**

Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны першай ступені, двума медалямі “За адвагу”, медалём “За перамогу над Германіяй” і іншымі.

Міхаіл Трафімавіч чалавек на Мядзельшчыне вядомы. Старэйшыя людзі памятаюць яго па журналісцкай дзейнасці, моладзь знаёмая з ім па сустрэчах з ветэранамі. Ён разам са старшынёй раённага савета ветэранаў **Міхаілам Гардонам** у кожнай школе не адзін раз пабываў.

**– Давайце пачнём з дзіцячых успамінаў…**

– Нарадзіўся ў 1925 годзе ў вёсцы Мікасецк, гэта за пяць кіламетраў ад Мядзела. Бацька Трафім Іосіфавіч і маці Наталля Андрэеўна былі непісьменнымі, працавалі на зямлі. Мне даводзілася і кароў пасвіць, і ўсё іншае рабіць. Адукацыю пачаў атрымліваць у Мікасецку.

Пасля ў Студзяніцу ў школу хадзіў, чатыры класы закончыў. Бацька гаворыць: “Калі дрэнна будзеш вучыцца, застанешся, будзеш мне дапамагаць кароў і свіней пасвіць”. Пайшоў вучыцца ў Мядзел.

Сямікласную польскую школу ў Мядзеле закончыў вясной 1939 года. Нас дваіх было, што на “выдатна” скончылі. Адзін меў права бясплатна працягнуць вучобу ў Паставах. Выбралі другога. Але пачалася вайна немцаў з палякамі, і ён не змог паехаць. А як прыйшлі саветы, то мне зноў трэба было вучыцца ў шостым і сёмым класах.

**– Бацька і маці якія запаветы вам пакінулі?**

– Прыкладна сябе паводзіць, не ганьбіць нікога, дружна жыць – гэтак, як яны жылі.

**– Як пайшлі ў партызаны?**

– Пачалі моладзь з суседніх вёсак забіраць у Германію. Ды і расстрэлы адбываліся. У нашай вёсцы суседскую сям’ю расстралялі. Было гэта 15 снежня 1943 года. Напярэдадні прыйшоў мой сябра Лёня, папрасіў, каб дапамог змалоць збожжа. Даў згоду, што прыйду.

Але раніцай завітаў сусед Гаўрыла Чарняўскі і пытае, хто дапаможа яму малаціць. Бацька кажа: “Сын”. І загадаў ісці туды, а не да сябра, як я планаваў. Праца была лёгкая: снапы скідаць да коннай малатарні.

Як развіднелася, у вёску ўварваліся немцы і паліцаі з мядзельскага гарнізона. Вяскоўцы палічылі, што моладзь будуць забіраць у Нямеччыну. Суседскай дзяўчыне і мне загадалі: “Кладзіцеся да сцяны, саломай закідаем”.

Праз шчыліну бачыў, як фашысты прыйшлі ў хату і павялі за хлявы суседа, яго жонку, сына (майго сябра Лёню), чатырохгадовую дачушку і расстралялі. Каб я пайшоў дапамагаць Лёню, то, пэўна, таксама б загінуў. Напэўна, нехта данёс на суседа ці яго высачылі: ён дапамагаў партызанам, рамантаваў абутак, вупраж.

Неўзабаве пасля гэтага разам са знаёмымі і я пайшоў у партызаны – у атрад імя Калініна. Адразу ахоўвалі штаб партызанскай брыгады, потым хадзілі на дыверсіі на чыгунцы, у засады.

**– Што найбольш успамінаецца з партызанскага мінулага?**

– Як аднойчы вярталіся з задання пад Лынтупамі. Каля вёскі Лотва нарваліся на вялікую групу паліцаяў – ехалі тыя на сустрэчу з паставускім гарнізонам. Яны адкрылі па нас агонь.

Выраталіся дзякуючы камандзіру ўзвода, былому акружэнцу Мікалаю Сергіенку з Украіны. Ён хутка зарыентаваўся і рвануў убок з крыкам “За мной!”. Мы пабеглі за ім налева, а двое – направа. Іх забіла, а мы выраталіся.

**– Пасля вызвалення Мядзела вы пайшлі на фронт. Больш пра ваша ваеннае мінулае даведаемся з урыўкаў з успамінаў. А зараз такое пытанне: як удалося выжыць на вайне?**

– Не ведаю, так лёс распарадзіўся.

**– Дзе сустрэлі Перамогу?**

– У шпіталі ў Акмолін-

## З ваенных успамінаў Міхаіла Чарняўскага

### Шынель у крыві

Сталі ў абароне. Адзін з салдат кажа раніцай: “Я прысніў сон, што мяне заб’юць”. “Супакойся, не гавары так”, – кажуць яму. Мне ж прысніўся сон, што мой шынель у крыві. Я пра гэта не сказаў.

А здарылася наступнае. У той жа дзень нашу роту кінулі на наступленне на нямецкія пазіцыі. Беглі, што ёсць моцы. Ад куль падалі параненыя, забітыя. Немцы па траншэі адступілі. Камандзір роты дае каманду: “Радавы Чарняўскі, уперад па траншэі!” Выконваю загад. Іду павольна, трымаючы зараджаную вінтоўку напагатове.

Бачу, ляжыць граната, што не разарвалася. Гэта немцы адступалі і кідалі гранаты. Мне чамусьці захацелася падняць галаву і агледзець наваколле. Убачыў у траншэі галаву нямецкага салдата ў касцы. Не паспеў апусціць сваю галаву, як кінутая ім граната ўзарвалася паблізу мяне. Адзін асколак параніў правую руку, а другі ўпіўся ў леву. Пальцы на правай руцэ сталі нерухомыя, лілася кроў. Салдаты, якія ішлі за мной, перавязалі рану, а затым і другую руку.

Калі б я ішоў схіліўшыся па траншэі, патрапіў бы на кулю другога немца, які быў напагатове зрабіць выстрал. Вось які мой лёс застацца жывым.

### Франтавы Новы год

…Ноч 31 снежня 1944 года. Спім, апрача вартавога. Роўна апоўначы ён грукае ў дзверы і крычыць: “Хутчэй сюды! Глядзіце, што робіцца!” Усё неба было асвечанае ракетамі. Нашы салдаты, якія былі на самай перадавой, так сустракалі Новы год.

Ніводнага выстралу. Падумалася, а якім ён будзе Новы 1945 год, ці хутка скончыцца вай-

ску (цяпер Астана) у Казахстане. Нас усіх запрасілі ў вялікую залу. Хто не мог хадзіць, неслі на насілках. Галоўны доктар шпіталя аб'явіў, што наступіў Дзень Перамогі, павіншаваў усіх і заспяваў адну з ваенных песень.

Яе ўсе падхапілі, і пасля яго многія хацелі выступіць. Скажуць некалькі слоў і плачуць. Хто ад радасці, што не будзе больш ліцца кроў людская, а хто з-за таго, што вайна забрала бацькоў, родных і сяброў. Потым у сталовай кожны з нас атрымаў франтавую порцыю – сто грамаў.

**– Міхаіл Трафімавіч, а як вы сталі журналістам?**

– Неўзабаве пасля вяртання з вайны стаў працаваць сакратаром сельсавета ў Мікасецку. У сталі выпадкова знайшоў ліст рэдактара райгазеты Івана Самокіна да супрацоўнікаў сельсаветаў, каб яны тэлефанавалі, пісалі лісты пра важныя і цікавыя падзеі.

Стаў тэлефанаваць і расказваць, якую дапамогу аказалі камсамольцы інваліду вайны, хто з зямлянкі перасяліўся ў новую хату, якімі кнігамі папоўнілася бібліятэка і хто з'яўляецца актыўным чытачом, хто паехаў у Мінск, каб дапамагаць аднаўляць разбураную сталіцу. Недзе ў канцы лютага 1946 года тэлефануе мне рэдактар райгазеты і кажа, што хоча сустрэцца.

Зайшоў я ў рэдакцыю ў Мядзеле. Іван Самокін прапанаваў мне перайсці да яго на пасаду адказнага сакратара. Так з пачатку сакавіка 1946 года стаў супрацоўнікам газеты. У вячэрняй школе атрымаў сярэднюю адукацыю, завочна вучыўся ў педінстытуце ў Мінску.

**– Журналістыцы вы прысвяцілі ўсё жыццё, за выключэннем чатырох год, што настаўнічалі ў Літве. Некалькі год працавалі ў пастаўскай раёнцы, астатні час – у мядзельскай. Вы рабілі і ў газеце, і на радыё, і фотакарэспандэнтам. А дзе было цікавей?**

– Ды ўсюды цікава. Галоўнае – гэта сустрэчы з людзьмі, падчас якіх даведваешся пра іх лёс, жыццё. Цікавіўся перажытым, добраму ад іх вучыўся.

**– Якія з найцікавейшых журналісцкіх сустрэч?**

– З **Паўлінай Мядзёлкай** – першай выканаўцай ролі Паўлінкі, з настаўніцай **Аняй Пашкевіч**, якая схавала ад немцаў чырвоны камсамольскі сцяг і перадала яго партызанам, з **Міхаілам Ролічам**, арганізатарам паўстання нарачанскіх рыбакоў, з братамі **Аляксандрам і Фёдарам Валасевічамі**, якія рамантавалі партызанскую зброю і вырабілі 50 медалёў для партызан, і многімі іншымі.

**– Вас можна было назваць універсальным журналістам: і матэрыялы пісалі, і аўдыёзапісы, фатаграфіі рабілі, і кінафільмы здымалі. Мо, і зараз сучаснымі тэхналогіямі аваладваеце?**

– Ні інтэрнэтам, ні мабільнікам не карыстаюся. Яны мне без патрэбы. Калі павіншаваць з юбілеем каго трэба – дасылаю паштоўкі ці па звычайным тэлефоне званю.

**– Вы – чытач "Рэгіянальнай газеты" амаль з першых нумароў. Што найперш цікавіць у нашым выданні?**

– Гэта ўжо традыцыя: выпісваю "Звязду", раённую газету і "Рэгіянальную".

У ёй найперш чытаю кароткія інфармацыі на першай старонцы. Пасля пра гістарычныя падзеі, матэрыялы пра ветэранаў. І сам раней часта друкаваўся: нявыдуманыя гісторыі, паданні, усё што ведаў, перажыў, дасылаў.

**– Вы шмат матэрыялаў на ваенную тэму сабралі...**

– А цяпер рыхтую "Жанчыны Мядзельшчыны ў час Вялікай Айчыннай вайны". Перачытваю свае артыкулы ў газетах, раблю выпіскі з кніг, сустракаюся з жанчынамі-ветэранамі, запісваю іх успаміны. Мяркую, да 70-годдзя вызвалення Беларусі закончыць гэту работу і перадаць школам, бібліятэкам, музею.

**– Нягледзячы на паважны ўзрост, вы пастаянна ў руху, удзельнічаеце ў розных мерапрыемствах, са школьнікамі сустракаецеся...**

– Трэба, каб маладое пакаленне ведала, што перажылі іх дзяды. А яшчэ падчас такіх сустрэч заўсёды заклікаю вучняў дазнавацца пра свой радавод.

**– Між тым вам ужо 88 год ідзе. Які сакрэт духоўнай маладосці?**

– Нікому крыўды не рабіць. А калі хтосьці нешта сказаў такое, лепш прамаўчаць.

**– Самая важная падзея ў вашым жыцці?**

– Гэта знаёмства з маёй Марыяй. Яна ў Кабыльніку працавала зубным доктарам у мясцовай бальніцы. Збіраў матэрыял, пазнаёміўся. Праз год ажаніліся. Было гэта ў 1950 годзе. Разам пражылі 62 гады. На вялікі жаль, амаль год, як яна адышла ў іншы свет.

**– Ваш след на зямлі. У чым ён?**

– Сыны, дзве ўнучкі і ўнук, праўнук. Сабраў мае артыкулы, фотаальбомы – няхай чытаюць нашчадкі, знаёмяцца.

**– Што хочаце пажадаць чытачам "Рэгіянальнай газеты"?**

– Жыць мірна, вучням – апраўдваць наказ бацькоў, вучыцца добра, авалодаць прафесіяй. Хочацца, каб нашы маладыя людзі не ўдзельнічалі ў ніякіх міжнародных канфліктах, былі толькі гатовыя абараняць сваю Радзіму.

Фота забяспечана Міхаілам ЧАРНЯЎСКІМ.



Алесь ВЫСОЦКІ.
E-mail:
alvy@tut.by



Сустрэча з вучнямі.



Інтэрв'ю на радыё.



З унучкай Насцяй, калі ёй было 7 год.



У дзень 60-годдзя вяселля з жонкай Марыяй Трафімаўнай.



9 мая ў вёсцы Нарач (Кабыльнік).

на, ці застануся жывым і вярнуся дадому да бацькоў, у сваю родную вёску Мікасецк, што непадалёку ад Мядзела. Вярнуліся ў зямлянку, ляглі спаць, а праз дзве гадзіны зноў запрашэнне паглядзець, як немцы сустракаюць Новы год, пускаючы ракеты.

### Чарговае раненне

Студзень 1945 года выдаўся снежным, марозным. 17 студзеня ў адно месца сабралі ўсіх салдат. Сказалі камандзіры, што знаходзімся на адлегласці 30 кіламетраў ад Кёнігсберга. Частку салдат пасадзілі на танкі, каб атакаваць варожыя пазіцыі. Кулямётчык звярнуўся да камандзіра, каб прызначылі салдата, які б нёс каробкі з патронамі.

– Радавы Чарняўскі. Прызначаецеся памочнікам кулямётчыка!

Наступленне наша часць пачала вечарам. Як толькі падышлі да нейкіх пабудоў, як угору ўзляцелі нямецкія ракеты, застрачылі кулямёты, аўтаматы. Варожая куля трапіла мне ў правую нагу, перабіўшы ніжэй калена абедзве косці. Я паваліўся, апрытомнеў, рукамі адвярнуў нагу, бо яе пальцы завярнуліся назад. Ледзь не страціў зноў прытомнасць. Пачаў адпаўзаць. Скінуў з плячэй рэчмяшок. Пакінуў аўтамат і гранаты. Вырашыў, што калі будуць набліжацца да мяне немцы, адкрыць па іх агонь.

Адпоўз метраў з паўсотню. Там, у полі, замерз бы, бо быў вялікі мароз. На шчасце, да месца бою прыбліжалася новая група салдат. Убачыўшы параненага, камандзір загадаў двум салдатам адцягнуць далей ад небяспечнага месца і перадаць мяне санітарам.

Мае выратавальнікі ўзялі палку і бінтам прывязалі да нагі, каб яна не варушылася. Палакаўшы на палатку, то цягнулі па снезе, то неслі на руках. Праз некаторы час я ўжо быў у нейкім будынку, дзе ляжалі параненыя, чакаючы, што іх даставяць у шпіталь і там зробяць аперацыю.

Тут мне далі падсілкавацца салдацкай кашай. У мяне быў аўтамат, а ў аднаго з салдат-выратавальнікаў – вінтоўка. Я ледзь угаварыў памяняцца на мой аўтамат. Падзякаваў за выратаванне, бо замерз бы ў полі.

### Мыла ў падарунак

Гэта было ў шпіталі ў Казахстане. Я не курыў, і мне прапанавалі дадатковую порцыю цукру. Я і яго не браў.

Аднойчы, калі мне пераліваілі ў вену кроў, доктар сказаў, што гэта кроў маладая, здаровая, бо донарам з'яўляецца прыгожая, маладая медсястра. Захацеў яе пабачыць. Папрасіў сястру-гаспадыню даць мне два кавалкі гаспадарчага мыла, так як я немалы час не браў цукар.

Праз некалькі дзён у палату зайшла сапраўды маладая, прыгожая медсястра (яна працавала ў другі корпусе, таму раней яе не бачыў). Я ўручыў "падарунак" – мыла.

– Табе ж трэба, каб быў чысты халат і ўсё адзенне медработніка. Іншага падарунка не магу зрабіць.

Сястрычка замахала рукамі і паспяшалася да дзвярэй. Дарогу ёй перагарадзіў адзін салдат і сказаў гучна: "Сябры, у нас ёсць у тумбачцы мыла, збіраем усё і добрым добраму чалавеку". Зляпілі яшчэ адзін кавалак мыла. Медсястрычка дзякавала нам. У вайну мыла мела немалы кошт.

### Вяртанне на радзіму

Пасля лячэння ў шпіталях 22 чэрвеня 1945 года адправіўся дадому. На цягніку прыехаў у Княгінін. Пешшу дабраўся да цэнтра вёскі. Тут мне сказалі, што выканкам сельсавета дае загад жыхару на павозцы інвалідаў вайны давозіць да наступнага сельсавета і так далей.

Нарэшце мяне давезлі да роднай вёсцы Мікасецк. Убачыла маці, заплакала. Я ж быў на мыліцах. Каб усцешыць яе, паставіў іх пад сцяну і падаўся ў хату. З-за гэтага так разбалелася нага, што суткі праляжаў у ложку. Рана на назе не зажывала. Мяне вазілі ў Мядзел у паліклініку. Праз некаторы час раны не стала, застаўся толькі яе след, які існуе цяпер.

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

# Дзяніс Мятліцкі: “Для такіх заўзятараў хочацца працаваць!”

**МАЛАДЗЕЧНА. Футбольны клуб “Маладзечна-2013” адкрыў сезон гульнёй на дамашнім стадыёне. Гульня супраць “Гомельчыгунтранса” скончылася з лікам 0:2.**

Паўтары сотні заўзятараў віталі адноўленую каманду ў фан-сектары, яшчэ больш аматараў футбола сабралася на агульных трыбунах.

У гульні супраць “Гомельчыгунтранса” каманда “Маладзечна-2013” выйшла на поле ў **наступным саставе (стартавы састаў):**

| № | Прозвішча і імя |
|---|---|
| 1 | Пуляк Аляксандр (галкіпер) |
| 13 | Струкаў Мікіта |
| 17 | Дамілік Аляксандр |
| 11 | Макрыцкі Віталь (капітан) |
| 5 | Бугай Юры |
| 3 | Галаўнёў Алег |
| 8 | Жыліч Дзяніс |
| 6 | Палтаржыцкі Віталь |
| 7 | Парфенчык Сяргей |
| 4 | Наталевіч Аляксей |
| 20 | Дарагакупец Віталь |

**У ліку запасных гульцоў былі:**

| № | Прозвішча і імя |
|---|---|
| 16 | Мілеўскі Павел |
| 19 | Белікаў Уладзіслаў |
| 10 | Марціновіч Юры |
| 2 | Суман Павел |
| 15 | Кенько Яўген |
| 14 | Лебядзевіч Уладзіслаў |
| 9 | Чарняўскі Сяргей |

Судзілі матч **Сяргей Лабацевіч** (Віцебск), **Вадзім Ракса і Міхаіл Чэрнік** (Гродна).

“Рэгіянальная газета” паказала некаторыя моманты гульні ў прамым эфіры на сваім сайце.

Першы сапернік маладзечанцаў быў не з лёгкіх: “Гомельчыгунтранс” быў у лідарах мінулага сезона.

Каманда **Дзяніса Мятліцкага** выглядала годна, гуляючы з моцным сапернікам. Неаднойчы маладзечанцы праводзілі добрыя атакі, на жаль, яны не скончыліся ўзяццем варот.

Пасля матча, які скончыўся з лікам 2:0 не на карысць каманды “Маладзечна”, гульню пракаментаваў галоўны трэнер маладзечанскай каманды Дзяніс Мятліцкі.

**– Спадар Дзяніс, пракаментуйце, калі ласка, сённяшні матч.**

– Я застаўся вельмі задаволены сваім калектывам. Мы сабраліся літаральна два тыдні таму. Але было відаць, як хлопцы змагаюцца.

Другі тайм правялі лепей. Гол прапусцілі з-за памылак. Не хапае сыгранасці. У супернікаў былі гульцы з большым досведам. Мы перахапілі ініцыятыву, у другім тайме стваралі небяспечныя моманты, бо пасля голу спрабавалі адыграцца. Але не атрымалася, хоць мы і рызыкавалі. Магчыма, на выніку гульні адбілася тое, што наш асноўны нападаючы **Сяргей Тарчыла** напярэдадні атрымаў траўму. Нам яго вельмі не хапала сёння, я на яго вельмі разлічваў. Вельмі тэхнічны, хуткі хлопец.

**– Калі адбудзецца наступная гульня?**

– Наступны матч будзе ў наступную нядзелю, 12 мая, у Мінску. Нашым сапернікам будзе новая мінская каманда ФК “АЛФ-2007”. А пасля дамашняя гульня – 24 мая. У гасцях будзе гуляць мінскі “Партызан-МТЗ”.

**– А як вы ацэньваеце падтрымку фанатаў?**

– Я вельмі ім удзячны. Я бачыў, як яны рыхтаваліся да гульні. Шыкоўная ў нас падтрымка была. Для такіх заўзятараў і хочацца працаваць, хочацца зноў і зноў выходзіць на поле. Думаю, што ўсё яшчэ наперадзе. Прывяду прыклад з мінулага сезона. Каманда “Забудова” ў пачатку чэмпіянату выйграла ў каманды “Іслач”. І што? Па выніках сезона “Іслач” у Першай лізе, а “Забудова “ – 15 месца. Так што, куранят па восені лічаць, ці не праўда?

### Капітан каманды “Маладзечна-2013” Віталь Макрыцкі пракаментаваў пачатак сезона:

– Тое, што я стаў капітанам каманды, – цалкам прадказальна, – гаворыць спадар Віталь. – Я не толькі маладзечанец, але і самы старэйшы футбаліст. Я не ўдзельнічаў у спарынгах, таму хлопцы з каманды для мяне незнаёмыя. Я нават не ўсіх памятаю па імёнах. Відаць, што пакуль унутры каманды не хапае ўзаемапаразумення, нам трэба яшчэ прыцерціся.

### Сваімі ўражаннямі падзяліліся і заўзятары:

– Улічваючы тое, які моцны сапернік у нас сёння быў, я задаволены лікам на табло, – гаворыць заўзятар **Арцём**. – Не ўсе планы фан-сектара атрымалася здзейсніць: хацелі распачаць сезон з піратэхнікай, але не атрымалі на яе дазволу. Сёння ў нашым сектары мы налічылі 140 чалавек. На наступны матч, які пройдзе ў Мінску, абавязкова паедзем, хоць і не так масава.

**Наталля ТУР, Аляксандра ПАРАХНЯ.**




**Па першай гульні сезона нельга было сказаць, што каманда “Маладзечна-2013” склалася толькі некалькі тыдняў таму.**

НАВІНЫ

### У дартсе і плаванні лепшыя былі камунальнікі

**ВІЛЕЙКА.** 4 мая адбыліся спаборніцтвы па дартсе і плаванні ў рамках круглагадовай спартакіяды працоўных калектываў раёна. Праходзілі яны ў цэнтры фізкультурна-аздараўленчай работы “Сатурн”.

У спаборніцтвах па дартсе прынялі ўдзел прадстаўнікі толькі трох працоўных калектываў, а па плаванні – двух.

І ў дартсе, і ў плаванні перамаглі працаўнікі Вілейскай жыллёва-камунальнай гаспадаркі, паведаміў інструктар-метадыст раённага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра “Імпульс” **Аляксандр Вайда**.

### У лідарах – каманда завода “Фламетр”

**ВІЛЕЙКА.** Завяршыўся першы круг чэмпіянату Вілейскага раёна па валейболе сярод мужчынскіх каманд. Па яго выніках упэўнена лідзіруе каманда завода “Фламетр”. На яе рахунку 15 ачкоў. На пяць ачкоў менш у каманды “Першы Беларускі”. На трэцім месцы з васьмю ачкамі прадстаўнікі аддзела адукацыі.

**Аддзел інфармацыі.**

ПАМЯЦЬ

# Хоць бы магілку пабачыць, пакуль на зямлі косткі ляжаць

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета дзень вызвалення вязняў для некаторых сваякоў загінулых стаў сапраўдным цудам.**

Мы абяцалі расказаць пра гэты дзень у №16.

У дзень вызвалення вязняў канцлагераў 11 красавіка сваякі тых людзей, якіх нядаўна знайшлі ўдзельнікі клуба "Пошук", сабраліся пасля мітынгу ля "Шталага-342" разам.

Кіраўніца клуба **Лідзія Князева** пазнаёміла гасцей з вучнямі школы №5, якія дапамагаюць вяртаць імёны загінулых з нябыту.

Удзельнікі клуба "Пошук" шукаюць сваякоў зусім невядомых ім людзей, але спадзяюцца знайсці і тых, хто звязаны з імі сямімі.

Адна з удзельніц клуба "Пошук" **Наталля Мандрык** прыйшла ў клуб і знайшла сваяка, якога лічылі зніклым без вестак.

– Па дадзеных, якія напрацавала Лідзія Барысаўна, я знайшла, што брат маёй прабабулі быў пахаваны каля сваёй жа вёскі, – распавядае дзесяцікласніца. – А прыйшоў дакумент, што ён знік і некалькі дзесяцігоддзяў не маглі яго знайсці. Паехалі праверыць – на помніку яго прозвішча.

### Архівы не дазвалялі шукаць вязняў

За час свайго існавання клуб "Пошук" вярнуў з нябыту больш за тысячу імёнаў. Было некалькі гадоў, калі ўдзельнікі не знаходзілі ніводнага імя за гэты час. У канцы 80-х – пачатку 90-х усе архівы адказвалі, што не маюць патрэбных звестак: у той час вязні лічыліся ворагамі народа.

Рукі не апусціліся толькі таму, што прыходзілі лісты з просьбамі сваякоў знайсці вязняў, якія прапалі без вестак.

– Былы вязень шталага **Мікалай Шышмянёў** быў удзельнікам нашага клуба, – прыгадвае Лідзія Князева. – Ён казаў, што тут была мясарубка, загінула столькі людзей. Папрасіў паабяцаць, што я буду шукаць. Я дала слова і выконваю яго.

### Зніклых без вестак адшукваюць у розных месцах

Лідзія Барысаўна адшукала зніклага без вестак і са сваёй сям'і. Яе бацька вельмі сумаваў, што так і не даведаўся, дзе пахаваны яго брат.

– Але аднойчы мы з Наташай знайшлі дакумент, паводле якога мой дзядзька загінуў падчас вызвалення Польшчы ў 1944 годзе, – прыгадвае кіраўніца клуба. – Даведаліся, што пахаваны ў брацкай магіле. І я па запрашэнні пана ваяводства ездзіла ў Сакулку на тое месца.

**Дарэчы, на месцы пахаванняў можна з'ездзіць, не адкрываючы візу. Але трэба мець дакумент, які пацвярджае, што ваш сваяк сапраўды там пахаваны.**

Дасылалі лісты ў розныя газеты, каб знайсці сваякоў загінулых вязняў. Знайшлі аднаго вязня з Кіргізіі, **Дзмітрыя Казарэзава**. Ён прайшоў тры канцлагеры, у тым ліку Асвенцым, і застаўся жыць.

Нядаўна жанчына са Свярдлоўскай вобласці напісала ліст з просьбай знайсці яе бацьку, які загінуў у шталагу. Удзельнікі клуба знайшлі, што ён быў вязнем, але загінуў не ў Маладзечне, а ля Гудагая падчас перавозкі на працу ў Германію. На станцыі стаіць помнік, на якім высечана яго імя.

### "Не, ён загінуў на радзіме"

Яшчэ адны госці распавялі, што ў базе вязняў Татарстана знайшлі прозвішча свайго дзеда **Сайфутдзіна Басырава**. Думалі, як жа расказаць яго дачцэ, што ён памёр у Германіі. Калі сказалі, то жанчына адказала: "Не, ён памёр не там". Потым сын Сайфутдзіна **Рафкат Басыраў** выпрашыў напісаць ліст у Германію.

– У лютым 1942-га прыйшоў ліст, што ён знік без вестак. А сёння мне пашчасціла пабачыць яго імя на дошцы памяці – нібы сустрэўся з жывым бацькам і павітаўся з ім. Гэта адчуванне падарыў мне клуб "Пошук". Мне здаецца, што сёння супакоілася душа бацькі. Супакоілася і мая душа. Я схіляю галаву перад вашай працай.

Унучка зніклага без вестак **Фанія Хусмутдзінава** таксама падзялілася сваімі ўражаннямі:

– Не адразу мы сюды трапілі. Мы чулі пра дзеда ад мамы. Яна бачыла яго апошні раз пяцігадовым дзіцем і ўвесь час расказвала пра свайго бацьку. Яна крыўдзілася, што мы яго не шукаем. Але не было такой магчымасці: архівы былі закрытыя.

Мама казала, што калі ён памёр, то на нашай зямлі. А ўсю тэрыторыю былога СССР яна лічыць радзімай. З Германіі нам адказалі, што ў іх толькі архіўныя дакументы, а фактычна ён загінуў у Шталагу-342. Потым праз інтэрнэт даведаліся пра групу "Пошук". Атрымліваецца, што ў жніўні мы пачалі шукаць, а ў красавіку ўжо прыехалі на месца пахавання дзядулі.

Калі мы там стаялі, нібы аднавілася нейкае абарванае звяно ў ланцугу памяці пакаленняў. Мама ўвесь час гаварыла, хоць бы магілку пабачыць, можа, яшчэ на зямлі косткі ляжаць.

А сёння раніцай мне прыснілася мама, якая паўгода таму памерла. Яна нібы рыхтуе святочны стол. А я нібы кажу, што не трэба, я сама ўсё зраблю. Яна адказвае, што павінна сама. І нейкі мужчына ківае адобрана, нібы кажа: "Не трэба маму спыняць, яна работу сваю ведае".

І я падумала, што гэта і быў мой дзед, ён жа калі памёр, то яму было 37 год. Яны ўсё бачыць і ведаюць – я ў гэтым як філосаф упэўненая. Я па адукацыі кандыдат філасофскіх навук. Усе гэтыя сувязі пакрысе навука даказвае. Яны з намі, яны бачылі тое, што адбылося сёння.

**– Наколькі я ведаю, ёсць доля выпадковасці ў тым, што вы сёння сюды трапілі?**

– Наша вялікае жаданне пабыць на магіле дзеда задавольваецца клубу матэрыялізавалася. А тое, як склаліся абставіны на працы, – проста дзіва.

Думаю, як гэта можна паехаць на цэлы тыдзень, у мяне ж студэнты. У нас чацвёра жанчын якраз пайшлі ў дэкрэтны адпачынак, адна захварэла, дзве звольніліся: выйшлі замуж у іншыя гарады. І напярэдадні ён бярэцца за галаву і кажа, што ж рабіць, сярэдзіна года. Я тэлефон набрала, каб адпрасіцца – і выключыла.

На наступны дзень прыходжу на заняткі – насустрач выходзіць задаволены дыспетчар па раскладзе і кажа: "Вашых жа знялі на практыку на ўвесь тыдзень". Тут жа нам і білеты набылі.

Колькі я буду жыць, столькі буду расказваць пра гэты цуд, які з намі здарыўся.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**




**Сёлета ў "Шталагу" адкрылі 10 новых мемарыяльных дошак. На іх нанесеныя імёны 250-і вязняў, якія тут пахаваныя. Кожнае з прозвішчаў – вынік крапатлівай працы клуба "Пошук".**



ГАРАСКОП (10-16 МАЯ)



**Авен.** У вашым жыцці наступае пераломны момант, калі вы самі можаце зрабіць так, як захочаце, з чымсьці расстацца і штосьці атрымаць узамен.



**Блізняты.** Вы станеце больш заўважанымі. Магчыма, вакол вас будуць адбывацца нейкія падзеі, якія выдзеляць вас з агульнай масы людзей, паставяць у цэнтр грамадскай увагі.



**Цялец.** Спрыяльны перыяд для работы над сабой. Расстаноўка нябесных сіл удачная для таго, каб пазбавіцца ад любых шкодных звычак і лішніх кілаграмаў.



**Рак.** Ад вас запатрабуецца прыняцце ўзважанага рашэння. Усё добра абдумайце. Правільны выбар прынясе поспех як у справах фінансавых, так і ў асабістым.



**Леў.** Перыяд вельмі шчодры на бліскучыя, амаль геніяльныя ідэі, сапраўдныя азарэнні. Складайце смелыя планы і не сумнявайцеся ў іх рэалізацыі.



**Дзева.** Якія б сітуацыі ні ствараліся, вам неабходна зразумець тое, што адбываецца вакол вас. Але лепш ні ўва што не ўмешвацца. Няхай усё вырашаецца само сабой.



**Шалі.** Не вінавацьце лёс. Вам прыйдзецца адпрацаваць частку сваёй кармы. Як адносіцца да гэтага працэсу – вырашаць вам. Толькі напорыстасцю і самаўпэўненасцю тут нічога не зробіш.



**Скарпіён.** Вы будзеце на вышыні, таму пастарайцеся кожны дзень выкарыстаць па максімуму. Яшчэ вы станеце добрым дарадчыкам, сябрам проста неабходнае будзе ваша парада.



**Стралец.** Вы будзеце актыўныя, работа проста будзе кіпець у вашых руках. І нічога не адкладвайце да святога ніколі.



**Казярог.** Вы атрымаеце магутны зарад энергіі, якая дазволіць вам вырашыць практычна любыя сітуацыі. А яшчэ расстаўце кропкі над "і".



**Вадалей.** Расстаноўка нябесных сіл складваецца для вас цяпер найлепшым чынам. Дзейнічайце – і вам усміхнецца фартуна.



**Рыбы.** Лёс спрыяе вам, і вы зможаце закласці аснову для далейшага саюза ці яго плённага развіцця. Каб не наламаць дроў, дазвольце падзеям развівацца плаўна.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

РЭПЕРТУАРЫ

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Тры парсючкі"** (музычная казка) І. Сідарук
12 мая – у 12.00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета

Камент-эксперт
erh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР'Е

| | Чацвер | | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +12 / +24 | | +15 / +25 | | +15 / +20 | | +16 / +24 | |
| | 744 | ↑ 5 | 739 | ↗ 6 | 739 | ↓ 4 | 737 | ↖ 6 |
| Вільня | +13 / +27 | | +15 / +25 | | +15 / +18 | | +12 / +23 | |
| | 752 | ↑ 6 | 746 | ↗ 6 | 749 | ↓ 1 | 745 | ← 5 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с / Усход, заход па Маладзечне

Усход 5.27
Заход 20.51
Даўжыня дня 15.24

Усход 20.51
Заход 14.39
Квадра 1

**11 мая, субота**

| Горад | Ноч | Дзень | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|---|
| Віцебск | +17 | +19 | 743 | ↓ 3 |
| Гродна | +15 | +18 | 748 | → 3 |
| Мінск | +15 | +20 | 739 | ↓ 4 |
| Магілёў | +15 | +21 | 744 | ↘ 3 |
| Гомель | +17 | +27 | 748 | ↗ 5 |
| Брэст | +15 | +20 | 747 | ↘ 4 |

## ПРЫКМЕТЫ

- "Май лясы прыбірае, лета ў госці чакае.
- Вясенні дождж лішні не бывае.
- "На Якуба (13 мая) грэе люба". Цёплы вечар на Якава і зорная ноч - будзе цёплае лета і добры ўраджай.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Настаўніца з Лебедзева Марыя Семашкевіч і яе вучні. Допіс нашага чытача.**



## АДЗІН ДЗЕНЬ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА

Фота Аляксандра ПАРАХНІ.

**Хутка рознакаляровыя кветкі ўпрыгожаць маладзечанскія вуліцы.**



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Чаму свята Перамогі застаецца актуальным?

**Аляксандр Сяргей, аддзелачнік:**

– Мой дзед і дзядзька прайшлі праз вайну. Гэта свята заўсёды для мяне актуальнае. Мы і нашы дзеці павінны памятаць сваіх дзядоў і прадзедаў.

**Таццяна Вяль, пенсіянерка:**

– У мяне родзічы прайшлі праз вайну. На шчасце, ніхто з іх не загінуў. Раней я заўсёды хадзіла на парады, а цяпер ўжо езджу на дачу ў гэты дзень. Моладзь абавязкова павінна ведаць, што 9 мая – гэта Дзень Перамогі.

**Наталля Сасіновіч, прараб:**

– Для мяне гэта святы дзень. І мой сын ведае, што ёсць такое свята. Я раней хадзіла на парады, а потым перастала, бо яны цяпер не такія, якія былі раней.

**Вольга Саркісава, вядучы спецыяліст банка:**

– Кожны год сям'ёй ездзім на парад у Мінск. У мяне трое дзяцей, і ўсе хлопчыкі, яны вельмі любяць свята Перамогі. У нас музычная сям'я, таму мы заўсёды ў гэты дзень слухаем ваенныя песні.

**Ірына Ігнатовіч, у дэкрэтным адпачынку:**

– Мы павінны ведаць пра тое, што адбывалася з нашымі продкамі. Добра, што цяпер у школах дзеці вывучаюць ваенныя падзеі. Мой дзед загінуў на вайне, я яго нават не памятаю.

**Юлія Асіповіч, студэнтка:**

– Я іграю на скрыпцы, таму ў гэты дзень мы заўсёды выступаем. Маладыя людзі павінны ведаць сваю гісторыю. Як гавораць, хто старое ўспомніць – той і вока пазбавіцца. Але мала хто памятае другую частку: а хто забудзе яго – то і абодвух. Пра вайну мне расказвалі і дзед, і тата. Добра, што цяпер мы жывём у мірны час.

**Леанід Капцюг, майстар СТА:**

– Я ведаю, што такое свята існуе. Але я ніколі яго не святкую. Гэты дзень для мяне – лішняя падстава, каб выйсці з дому і пашпацыраваць па горадзе.

**Падрыхтавалі Вольга ЮРКЕВІЧ, Аляксандра ПАРАХНЯ.**

Рэгіянальная газета. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6250 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 19 (941) 10.05.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 387. Падпісана ў друк у 10.00 7.05.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.